УСТАНОВА АДУКАЦЫІ
“ГРОДЗЕНСКІ ДЗЯРЖАЎНЫ ЎНІВЕРСІТЭТ
ІМЯ ЯНКІ КУПАЛЫ”

*А.К. Гачко, С.В. Асабіна*

# Беларуская мова: Арфаэпія. Графіка. Арфаграфія. Лексікалогія. Лексікаграфія. Фразеалогія. Фразеаграфія

(вучэбна-метадычныя рэкамендацыі для студэнтаў спецыяльнасцей 1-010201 - “Пачатковая адукацыя” і 1-010202-09 - “Пачатковая адукацыя. Сацыяльная педагогіка”)

Гродна: ГрДУ імя Я.Купалы
2012

Анатацыя

У вучэбна-метадычных рэкамендацыях “Беларуская мова: Арфаэпія. Графіка. Арфаграфія. Лексікалогія. Лексікаграфія. Фразеалогія. Фразеаграфія” даюцца асноўныя паняцці да названых раздзелаў курса “Беларуская мова”, заданні да практычных заняткаў, пытанні і заданні да самакантролю, спіс асноўнай і дадатковай літаратуры, а таксама выніковы тэст, узоры графічнага, арфаграфічнага, лексічнага і фразеалагічнага аналізу слоў, праграма экзамена. Рэкамендацыі прапануюцца студэнтам педагагічнага факультэта спецыяльнасцей “Пачатковая адукацыя”, “Пачатковая адукацыя. Сацыяльная педагогіка” і маюць на мэце аказаць метадычную дапамогу ў арганізацыі самастойнай работы пры засваенні праграмнага матэрыялу.

## АРФАЭПІЯ

Пасля вывучэння раздзела “Арфаэпія” студэнт павінен

**ведаць:**

- аб’ект вывучэння арфаэпіі;
- гісторыю фарміравання беларускай літаратурнай арфаэпіі;
- асноўныя адхіленні ад норм літаратурнага вымаўлення і іх прычыны;
- літаратурныя нормы вымаўлення галосных гукаў;
- літаратурныя нормы вымаўлення зычных гукаў і іх спалучэнняў;
- акцэнталагічныя нормы.

**умець:**

- прымяняць на практыцы асноўныя правілы вымаўлення галосных і зычных гукаў;
- вызначаць характар вымаўлення спалучэнняў гукаў;
- правільна ставіць націск;
- суадносіць вусную і пісьмовую формы слова ў адпаведнасці з нормамі літаратурнай мовы;
- выпрацоўваць гукавую культуру мовы ў малодшых школьнікаў.

### Асноўныя паняцці:

**Арфаэпія** (ад грэч. *orthos* – правільны, *epos* – мова) – раздзел мовазнаўства, у якім вывучаюцца нормы літаратурнага вымаўлення.

**Арфаэпічныя нормы** – правільнае вымаўленне гукаў і іх спалучэнняў.

**Акцэнталагічныя нормы** – правільная пастаноўка націску.

**Націск** – больш гучнае і працяжнае вымаўленне аднаго са складоў.

**Аканне** – пераход галосных [о], [э] не пад націскам у [а] пасля цвёрдых зычных.

**Яканне** – змена галосных [о], [э] у першым пераднаціскным складзе пасля мяккіх зычных на [а].

**Асіміляцыя** (ад лац. *assimilatio* – прыпадабненне) – гэта фанетычны працэс прыпадабнення аднаго гука да другога.

**Дысіміляцыя** (ад лац. *dissimilatio* – распадабненне ) – гэта змена аднаго з двух аднолькавых або падобных гукаў іншым, менш падобным па вымаўленні.

### Заданні да практычных заняткаў

Заданне 1. *Адзначце словы, вымаўленне якіх не супадае з напісаннем*:

1) грузчык;
2) адрына;
3) ускіпець;
4) подзвіг;
5) магчыма;
6) зачэпішся;
7) бясшумна;
8) лягчэй;
9) размаляваны;
10) схітрыць.

Заданне 2. *Адзначце словы, у якіх вымаўляецца гук [й]:*

1) не ішоў;
2) ручаіна;
3) сястра і брат;
4) пад ігліцай;
5) дожд і вецер;
6) пайшоў;
7) снег ідзе;
8) па іх;
9) мароз і вецер;
10) заіскрыўся.

Заданне 3. *Прасачыце за вымаўленнем гукаў [□] і [г]:*

Брагін, вагон, газета, ганак, гарнец, ґонта, гуз, гузік, герб, горад, дуга, загадка, лагер, легенда, мазгі, магазін, магніт, нага, параграф, прагноз, фігура, цуглі, ягады.

Заданне 4. *Затраскрыбіруйце словы, назавіце правілы вымаўлення падоўжаных зычных:*

Галлё, жаданне, узвышша, суддзя, узбярэжжа, суквецце, пытанне, калоссе, вяселле, бязладдзе, пад печчу, застрэшша, жыццё, Наталля, Аксіння, Закарпацце.

Заданне 5. *Вызначце, як вымаўляюцца ў адпаведнасці з літаратурнымі нормамі выдзеленыя зычныя і іх спалучэнні:*

Паказчык, падпісчык, пераплётчык, адчыніць, на рэчцы, зжаць, сшытак, гарадскі, грузчык, пясчаны, пасведчанне, пражскі, носьбіт, завязь, начны, згінуць, скінуць, снедаць, подзвіг, спадчына, цётчын, лётчык, на вокладцы, адцягнуць, суседскі, людскі, латышскі, ручнік, просьба, касьба, казка, пясчынка, дождж, сцежка, смелы, стог, расчасаць, сведчыць, нясвіжскі, дзверы, луг, добрушскі, прынёсшы, барацьба.

Заданне 6. *Ахарактарызуйце гукі [і], [у], [ў] (у адносінах да фанем):*

Выкладчык і студэнт, з інжынерам, іншы, прыйсці, краіна, умелы, вясёлая ўсмешка, ва ўніверсітэце, настаўнік, у гаі, вераб'іны, чытаў, на Урале, такая ўніверсальная, прынясі іголку, дождж ішоў, луг і поле, перад імі, збяруся і пайду.

Заданне 7. *Перакладзіце словы на беларускую мову і запішыце. Параўнайце вымаўленне губных зычных гукаў у рускай і беларускай мовах:*

Семь, голубь, насыпь, прорыв, восемьдесят, степь, восемь, накипь, поступь, поставьте, дробь.

Заданне 8. *Ахарактарызуйце асаблівасці вымаўлення спалучэнняў зычных на стыку марфалагічных частак слова і ў каранёвай марфеме наступных слоў:*

а[д]няць, а[д]валены, бя[сш]умны, ра[зж]аваць, пака[зч]ык, гара[дс]кі, апара[тч]ык, сустракае[шс]я, по[зн]а, му[жч]ына, жор[стк]асць, жор[стк]і, дзёр[зк]і.

Заданне 9. *Прачытайце і затранскрыбіруйце словы. Якія гукі ў беларускай мове вымаўляюцца заўсёды цвёрда?*

Дождж – дажджавы, жоўты – жаўцець, за ракой – зарэчны, здарэнне – здарацца, цэлы – цалюткі, слава – слаўны, сядзець – сяджу, цэны – цана, чорны – чарніць, шаптаць – шэптам, шчыры – шчырэць-шчыраванне, шэсць – шосты – шаснаццаць.

Заданне 10. *Прачытайце і затранскрыбіруйце словы. Скажыце, перад якімі зычнымі вымаўляюцца гукі [з'],[с'], а перад якімі – цвёрдыя [з],[с]?*

Апладысменты, зварка, зверка, з'явіцца, марозна, марозлівы, песня, плазма, плазменны, пяскі, разгінаць, разгон, свабода, святло, згінуць, скінуць, схіліцца, узбярэжжа, усміхнуцца, праспект.

Заданне 11. *Адзначце словы з другім націскным складам*:

1) прывід (здань);
2) каменны;
3) здаўна;
4) спагада;
5) індустрыя;
6) засветла;
7) заінецъ;
8) хрысціянін;
9) слабы;
10) спіна;
11) журавель;
12) прыняты;
13) заняць;
14) вадзяны;
15) цяжар;
16) глінішча;
17) рубель;
18) велізарны;
19) дзевяцера.

Заданне 12. *Пастаўце націск у словах. Праверце па слоўніку, ці правільна вымаўляеце гэтыя словы:*

Агент, адзінаццаць, алфавіт, аднасастаўны, ампер, гектар, магазін, дакумент, крапіва, фундамент, выпадак, атлас (геагр.), атлас (тэкст.), пасяджэнне, існуе, беларусы, дыспансер, даследаванне, цяжкі, буйны, рэчыўны, высакаразвіты, каменны, маленькі, алібі, маляр, мысленне, агрэст, увасабленне, аварыя, агульнанацыянальны, адляжацца – адлежацца, адсейванне – адсяванне, арганізаваны – арганізованы, высейваць – высяваць, нававыбраны – новаабраны, перапрацаваны – перапрацованы, міралюбівы.

Заданне 13. *Абазначце націск у фразеалагізмах:*

Як у ваду кануў, у гарачай вадзе купаны, кідаць цень, кідаць вока, закідаць шапкамі, кідацца ў вочы, гнуць спіну, журавель у небе, віламі па вадзе пісана.

Заданне 14. *Абазначце галоўны (знак графіса – /) і пабочны (знак акута – \) націскі ў наступных словах:*

Землеапрацоўчы, дзеепрыметнік, агульнаадукацыйны, добрасумленны, дзеепрыслоўе, белагаловы, высокаадукаваны, мовазнаўства, абавязаны, высокаразвіты.

Заданне 15. *Прачытайце тэкст, знайдзіце словы, у якіх напісанне не супадае з вымаўленнем. Растлумачце асаблівасці вымаўлення гукаў у гэтых словах. Вызначце асаблівасці беларускага літаратурнага вымаўлення:*

Вуснапаэтычная творчасць з глыбокай старажытнасці і да нашага часу адыгрывае важную ролю ў духоўным жыцці народа. У ёй адлюстраваны вялікі жыццёвы вопыт народа, яго думкі, мары, настроі, светапогляд, маральна-этычныя прынцыпы і нормы жыцця.

У стварэнні і распаўсюджванні песень, казак, легенд, прымавак, прыпевак і іншых жанраў удзельнічалі многія людзі. Гэта не адзначае, што ў творчым працэсе стварэння фальклорных твораў ніякай ролі не адыгрываў асобны чалавек. Многія таленавітыя народныя спевакі і казачнікі складалі песні, казкі або іншыя творы, карыстаючыся паэтычнымі формамі і сродкамі мастацкай выразнасці, выпрацаванымі на працягу стагоддзяў.

(*А. Фядосік, Г. Пятроўская*)

**Пытанні і заданні для самакантролю**

1. Раскрыйце змест, значэнне і ролю арфаэпіі як навукі аб правілах і нормах літаратурнага вымаўлення.
2. Якое значэнне мае строгае захаванне адзінства вымаўленчых, лексічных, фанетычных і граматычных норм, правільнасць, чысціня і выразнасць мовы ў яе пісьмовай і вуснай формах?
3. Да якога часу адносіцца фарміраванне беларускай літаратурнай арфаэпіі, на якой моўнай базе яна заснавалася?
4. Назавіце прычыны парушэння арфаэпічных норм.
5. У якіх адносінах з арфаэпіяй знаходзяцца інтанацыя, дыкцыя і націск?
6. У чым асаблівасці вымаўлення націскных галосных?
7. У чым асаблівасці ненаціскных галосных?
8. Растлумачце, чаму галосныя [о], [э] не пад націскам у адных выпадках вымаўляюцца як гук [а], а ў другіх – як [ы].
9. Як вымаўляецца каранёвы пачатковы галосны [і] ў пазіцыі пасля прыставачных галосных?
10. У чым асаблівасці вымаўлення галосных у запазычаных словах?
11. Як вымаўляюцца зычныя [р], [ж], [ш], [ч], [дж], [дз], [г]?

12. Як вымаўляюцца спалучэнні зычных [зж], [сч], [сш], [дч], [тч]?
13. Адзначце асаблівасці вымаўлення зычных на стыку марфем.
14. Як вымаўляюцца спалучэнні двух аднолькавых зычных на стыку прыстаўкі і кораня, кораня і суфікса? Прывядзіце прыклады.
15. Укажыце на арфаэпічныя адметнасці ў вымаўленні граматычных форм у наступных словах ці іх спалучэннях: *добрага, ціхага, летняга; светлыя, дарагія; бяром, нясём, вядзём; бяром, ідзём, панясём; адзеўся, абуўся; мераю, хітрую; двух рублёў, дзвюх капеек; два высокія дрэўцы; хадзіў па лесе, па дарогах; ісці ў ягады, па ваду.*
16. Якія памылкі ва ўжыванні і вымаўленні вышэйназваных словаформ трапляюцца ў практыцы моўных зносін людзей, у вуснай і пісьмовай мове?
17. Пералічыце асноўныя адрозненні вымаўлення гукаў у беларускай і рускай мовах.
18. Што такое націск, у чым ён праяўляецца і яго якая роля ў мове?
19. Адзначце рысы, характэрныя для націску ў беларускай мове. Якія функцыі можа выконваць націск у мове?
20. Якімі акцэнтуацыйнымі адметнасцямі характарызуюцца складаныя словы? У якіх выпадках складаныя словы маюць два націскі?
21. Прывядзіце прыклады акцэнталагічных варыянтаў слоў.
22. Ці супадае месца націску ў аднолькавых словах беларускай і рускай моў. Адказ абгрунтуйце.
23. Якімі арфаэпічнымі слоўнікамі вы карысталіся?

## Спіс літаратуры

### Асноўная літаратура

1. Адамовіч, Я.М. Беларуская мова: Зборнік практыкаванняў: вучэб. дапам. /Я.М. Адамовіч, М.І. Касцян, В.У. Ляпёшкін. – 2-е выд. перапрац. – Мінск: Выш. шк., 1993. – 207 с.

2. Беларуская мова ў 2 ч.: Ч.1: падруч. Для навучэнцаў педвучылішчаў і каледжаў / Пад агул. рэд. Л.М. Грыгор'евай. – 3-е выд. перапрац. і дап. – Мінск: Выш. шк., 1998. – 330 с.

3. Беларуская мова: Фанетыка. Арфаэпія. Графіка. Арфаграфія. Лексікалогія. Лексікаграфія. Фразеалогія. Марфемная будова слова. Словаўтварэнне. Марфалогія. Сінтаксіс. Пунктуацыя: Вучэб. дапам. Для педагагічных ВНУ / Пад. агул. рэд. Л.М. Грыгор'евай. – Мінск, 1994. – 655 с.

4. Грыгор'ева Л.М. Сучасная беларуская мова: Фанетыка. Арфаэпія. Графіка. Арфаграфія. Лексікалогія. Лексікаграфія. Фразеалогія. Марфеміка. Словаўтварэнне. Марфалогія. Сінтаксіс. Пунктуацыя: Зборнік практыкаванняў: вучэбны дапаможнік / Л.М. Грыгор'ева, Г.Ф. Андарала. – Мінск: Выш. шк., 2010. – 368 с.

5. Каляда, А. Беларускае літаратурнае вымаўленне: практыкум па дыкцыі і арфаэпіі / А. Каляда. – Мінск, 2006.

6. Плотнікаў, Б.А. Беларуская мова: лінгвістычны кампедыум / Б.А. Плотнікаў, Л.А. Антанюк. – Мінск, 2003. – 672 с.

7. Сучасная беларуская мова: Фанетыка. Арфаэпія. Графіка. Арфаграфія. Лексікалогія. Лексікаграфія. Фразеалогія. Марфеміка. Словаўтварэнне. Марфалогія. Сінтаксіс. Пунктуацыя: Вучэбны дапаможнік для студэнтаў

спецыяльнасці "Пачатковая адукацыя" / Пад агульн. рэд. Л.М. Грыгор'евай. – Мінск: Выш. шк., 2010. – 621 с.

### Дадатковая літаратура

1. Беларуская мова: Цяжкія пытанні фанетыкі, арфаграфіі, граматыкі / А.У. Падлужны, Л.Ц. Выгонная, Г.К. Усціновіч і інш.; Пад рэд. А.І. Падлужнага. – Мінск: Нар. асвета, 1987. – 144 с.
2. Лепешаў, І.Я. Практыкум па фанетыцы, арфаэпіі, графіцы і арфаграфіі / І.Я. Лепешаў, М.А. Якалцевіч. – Гродна: ГрДзУ, 2007. – 75 с.

### Слоўнікі

1. Арашонкава, Г.У. Кароткі слоўнік беларускай мовы. Правапіс. Вымаўленне. Націск. Словазмяненне. Словаўтварэнне / Г.У. Арашонкава, В.П. Лемцюгова. – Мінск: Выш. шк., 1994. – 210 с.
2. Беларускі арфаграфічны слоўнік / Пад рэд. А.А. Лукашанца. – 2-е выд., выпр. – Мінск: Беларус. навука, 2010. – 695 с.

## ГРАФІКА

Пасля вывучэння раздзела "Графіка" студэнт павінен

**ведаць:**
- змест і прызначэнне графікі;
- асноўныя тыпы пісьма;
- гісторыю беларускай графікі;
- беларускі алфавіт і афіцыйныя назвы літар;
- адпаведнасць літар і фанем у беларускай мове;
- прынцыпы беларускай графікі.

**умець:**
- вызначаць значэнне, якое выражаецца літарай;
- вызначаць прынцыпы беларускай графікі;
- выконваць графічны аналіз слова;
- выкарыстоўваць тэарэтычныя веды ў прафесійнай дзейнасці.

### Асноўныя паняцці:

**Алфавіт** (грэч. *alphabetos* ад назваў першых дзвюх літар грэчаскага алфавіта *alpha* і *beta*; навагрэч. *vita*) – сукупнасць літар, размешчаных у алфавітным парадку.

**Літара** – гэта графічны знак у складзе алфавіта, якім на пісьме адзначаецца пэўны гук ці спалучэнне гукаў.

**Дыграфы** – спалучэнні дзвюх літар, якія служаць для абазначэння аднаго складанага злітнага гука (дыграфы *дж*, *дз*, якія абазначаюць гукі [ž] [z'] [z]).

**Графіка** (ад грэч. *graphike*, ад *grapho* – пішу, чарчу, малюю) – гэта раздзел мовазнаўства, у якім вывучаюцца: 1) сістэма суадносін паміж літарамі і гукамі; 2) сукупнасць усіх сродкаў для абазначэння вуснай мовы на пісьме; 3) напісанне літар і іншых графічных знакаў.

**Пісьмо –** гэта форма фіксацыі вуснай мовы, што служыць для зносін паміж людзьмі на адлегласці і замацавання ў часе.

**Гукавы прынцып** графікі заключаецца ў тым, што літара як графічны знак ужываецца ў залежнасці ад суседніх літар і служыць для абазначэння аднаго пэўнага гука.

**Складовы прынцып** графікі заключаецца ў тым, што літара як графічны знак можа: а) абазначаць два гукі; б) выконваць, акрамя асноўнай функцыі, функцыю абазначэння дадатковага гука.

## Заданні да практычных заняткаў

Заданне 1. *Выпішыце спачатку словы, у якіх колькасць гукаў і літар супадае, затым – словы, у якіх літар больш, чым гукаў, нарэшце – словы, у якіх гукаў больш, чым літар.*

Край, свет, шчасце, сузор’е, пісьмо, яблык, яскрава, аб’яднаць, рэспубліка, Айчына, тэатр, цягнік, пояс, аб’ява, мільён, мільярд, станцыя, памяць, лекцыя, аўдыторыя, літаратура, апавяданне, паэма, канцылярыя, авіяцыя, раён, акардэон, фразеалогія, ураджай, дзень, калоссе, сям’я, вераб’і, здароўе, верш, паэзія, хваляванне.

Заданне 2. *Назавіце літары, якія абазначаюць галосныя гукі. Якія суадносіны паміж галоснымі гукамі і літарамі існуюць у беларускай мове?*

Наказ сыну

Вазьмі ў сваё сэрца на схову
Дрымоту маўклівых ракіт,
І поле, і луг каляровы,
І родны блакіт.
Вазьмі ў сваё сэрца на схову
Адзінай айчыны сцягі
І словы купалаўскай мовы
Як спадчыны скарб дарагі.

(*А. Кавалюк*)

Заданне 3. *Назавіце адназначныя і двухзначныя літары ў ніжэйпрыведзеных словах.*

Край, шчасце, пісьмо, яблык, цягнік, аб’ява, гадзіннік, фразеалогія, графіка, ураджай, вераб’і, насенне, экзамен.

Заданне 4. *Назавіце, якія гукавыя значэнні (асноўныя і дадатковыя) маюць адназначныя літары.*

Горад, дом, адчуць; жоўты, ножка, нож; тут, матчын, футбол; часы, адчуць, лічба; шосты, пытаешся, на дошцы; дождж, гараджанін, аджыць.

Заданне 5. *Назавіце, якія гукавыя значэнні (асноўныя і дадатковыя) маюць двухзначныя літары.*

Бой, біць, голуб; вока, вясна; гай, мазгі, геній, гузік; зямля, зорка, нізка, зрабіць; сад, снег, сшыць; люстра, лодка; мак, мячык; несці, ноша; пяць, памятка; футра, ферма.

Заданне 6. *Вызначце, якое гукавое значэнне маюць ётаваныя літары ў словах.*

Усе, на свеце, месца, ехаць, вецер, азёры, здароўе, ён, ёсць, вёска, аб'ём, малюнак, юнак, яблык, вясна, смяяцца, краіна, іх, даліна, мільён, бясстрашны, яе, чэмпіён, ягада.

Заданне 7. *Спішыце і растлумачце, якімі літарамі абазначаюцца цвёрдыя зычныя гукі ў беларускай мове. Падкрэсліце словы, напісанне якіх не супадае з вымаўленнем. Растлумачце, чым гэта абумоўлена.*

Дзень быў ясны, блакітны. Але сонца ўжо не магло як след нагрэць зямлю і паветра, і нават у гэты ясны дзень адчувалася восень, подых недалёкіх халадоў. Далячынь віднелася па-асенняму задуменная, маркотная, са сваімі апусцелымі палямі, з пагалелымі там і тут дрэвамі. І неба было ўжо не лагоднае, а халаднаватае і нядобрае. (*І. Мележ*)

Заданне 8. *Вызначце розныя спосабы абазначэння мяккасці зычных, а таксама выпадкі, калі мяккасць на пісьме не абазначана і праяўляецца толькі пры вымаўленні.*

Сонца не было цяпер такое яркае, як раней. Аддаўшы амаль увесь свой пыл лету, яно берагло рэшткі цяпла, грэла мала, але на дзіва лагодна і пяшчотна. Гэтай лагоднасцю і пяшчотай было напоўнена ўсё ў прыродзе, усе дні. У лагодным сонечным святле гарэлі сумным адвечным полымем ліпы і бярозы каля хат, дрэвы ў недалёкім лесе. (І. Мележ)

Заданне 9. *Параўнайце беларускі і рускі алфавіт. Назавіце асаблівасці беларускага алфавіту, чым ён адрозніваецца ад рускага. Словы запішыце ў алфавітным парадку.*

Экзамен, студэнт, спецыяльнасць, асістэнт, неабсяжны, экскурсія, абітурыет, малацьба, просьба, прасіць, дубок, дзяцел, перапісчык, пясчаны, матчына, шчырасць, бяроза, вакзал, абмеркаваць, расказаць, казка, геаграфія, геаметрыя, дацэнт, даход, імгненна, пограб, ледакол, лінолеум, дождж, дажджынкі, кладка, кладу, бабка, восень, лесавоз, ювелірны, вясёлы, жыццё, заказ, ясень, ячмень, яблыня, узор, універсітэт, юстыцыя.

Заданне 10. *Выканайце графічны аналіз слоў:*

1. Пад'езд, біялогія, здароўе.
2. Юнак, мільён, ёлка.
3. Шчасце, сям'я, сяджу.

**Пытанні і заданні для самакантролю**

1. Што вывучае графіка?
2. Якое значэнне для чалавецтва мае ўзнікненне пісьма?
3. Якія асноўныя этапы прайшла графіка ў сваім станаўленні і развіцці?
4. Што такое піктаграфічнае пісьмо? У чым перавага і надахоп яго ў параўнанні з іншымі тыпамі пісьма?
5. Ці сустракаюцца элементы піктаграфічнага пісьма ў наш час? Прывядзіце прыклады.
6. У чым сутнасць ідэаграфічнага пісьма? У чым цяжкасць яго засваення? Ці сустракаюцца элементы гэтага пісьма ў наш час?
7. Якое пісьмо называецца літарна-гукавым? Дзе і калі яно ўпершыню ўжыта?
8. Што называецца алфавітам?
9. Што пакладзена ў аснову беларускага (і рускага) алфавітаў? Як ішло развіццё гэтых алфавітаў?

10. Чым вызначаўся беларускі алфавіт, заснаваны на лацініцы (канец XVI ст.)? Якімі літарамі папоўнілася беларуская графіка ў навейшы перыяд яе развіцця?
11. Дайце вызначэнне літары.
12. Колькі літар налічвае беларускі алфавіт? Ці існуе якая-небудзь заканамернасць у размяшчэнні літар беларускага алфавіта?
13. Ці лічыцца літарай раздзяляльны знак апостраф (‘), уваходзіць ці не ўваходзіць ён у склад алфавіта і ці ўплывае на размяшчэнне літар у ім?
14. Назавіце літары беларускай графікі.
15. Якія спецыфічныя літары ўжываюцца ў беларускім алфавіце і адсутнічаюць у рускім і наадварот?
16. Якія іншыя графічныя сродкі існуюць у пісьмовай мове? Назавіце іх.
17. Што такое лігатура і дыграф?
18. У якіх графічных разнавіднасцях можа выступаць адна і тая ж літара?
19. Ці ўжываюцца ў якасці вялікіх (загалоўных) літарты Ы, Ь і ці могуць пачынацца з іх словы?
20. Назавіце літары, якія маюць састаўную назву.
21. Якія галосныя літары называюцца ётаванымі?
22. На якія дзве групы паводле функцыі падзяляюцца ётаваныя галосныя?
23. Адзначце асноўныя асаблівасці графікі ў перадачы зычных фанем.
24. У якіх выпадках літара мае асноўнае, а ў якіх другараднае (дадатковае) значэнне?
25. Якія літары адносяцца да адназначных? Двухзначных?
26. На якіх прынцыпах заснавана беларуская графіка?
27. Якая эканомія ў графічнай перадачы мяккіх зычных фанем дасягаецца дзякуючы складоваму прынцыпу беларускай графікі?
28. Ці магло ўзнікнуць пісьмо да з’яўлення мовы? Адказ абгрунтуйце.
29. Якая графіка лічыцца ідэальнай? Ці ёсць яна ў якой-небудзь мове свету?
30. Ці ўсе гукі мовы маюць літарнае абазначэнне і ці ўсе літары – гукавое выражэнне?

## Спіс літаратуры

### Асноўная літаратура

1. Адамовіч, Я.М. Беларуская мова: Зборнік практыкаванняў: вучэб. дапам. / Я.М. Адамовіч, М.І. Касцян, В.У. Ляпёшкін. – 2-е выд. перапрац. – Мінск: Выш. шк., 1993. – 207 с.
2. Беларуская мова ў 2 ч.: Ч.1: падруч. Для навучэнцаў педвучылішчаў і каледжаў / Пад агул. рэд. Л.М. Грыгор’евай. – 3-е выд. перапрац. і дап. – Мінск: Выш. шк., 1998. – 330 с.
3. Беларуская мова: Фанетыка. Арфаэпія. Графіка. Арфаграфія. Лексікалогія. Лексікаграфія. Фразеалогія. Марфемная будова слова. Словаўтварэнне. Марфалогія. Сінтаксіс. Пунктуацыя: Вучэб. дапам. Для педагагічных ВНУ / Пад. агул. рэд. Л.М. Грыгор’евай. – Мінск, 1994. – 655 с.
4. Грыгор’ева Л.М. Сучасная беларуская мова: Фанетыка. Арфаэпія. Графіка. Арфаграфія. Лексікалогія. Лексікаграфія. Фразеалогія. Марфеміка.

Словаўтварэнне. Марфалогія. Сінтаксіс. Пунктуацыя: Зборнік практыкаванняў: вучэбны дапаможнік / Л.М. Грыгор’ева, Г.Ф. Андарала. – Мінск: Выш. шк., 2010. – 368 с.

5. Каляда, А. Беларускае літаратурнае вымаўленне: практыкум па дыкцыі і арфаэпіі / А. Каляда. – Мінск, 2006.

6. Плотнікаў, Б.А. Беларуская мова: лінгвістычны кампедыум / Б.А. Плотнікаў, Л.А. Антанюк. – Мінск, 2003. – 672 с.

7. Сучасная беларуская мова: Фанетыка. Арфаэпія. Графіка. Арфаграфія. Лексікалогія. Лексікаграфія. Фразеалогія. Марфеміка. Словаўтварэнне. Марфалогія. Сінтаксіс. Пунктуацыя: Вучэбны дапаможнік для студэнтаў спецыяльнасці “Пачатковая адукацыя” / Пад агульн. рэд. Л.М. Грыгор’евай. – Мінск: Выш. шк., 2010. – 621 с.

**Дадатковая літаратура**

1. Беларуская мова: Цяжкія пытанні фанетыкі, арфаграфіі, граматыкі / А.У. Падлужны, Л.Ц. Выгонная, Г.К. Усціновіч і інш.; Пад рэд.А.І.Падлужнага. – Мінск: Нар. асвета, 1987. – 144 с.

2. Лепешаў, І.Я. Практыкум па фанетыцы, арфаэпіі, графікі і арфаграфіі / І.Я. Лепешаў, М.А. Якалцевіч. – Гродна: ГрДзУ, 2007. – 75 с.

**Слоўнікі**

1. Арашонкава, Г.У. Кароткі слоўнік беларускай мовы. Правапіс. Вымаўленне. Націск. Словазмяненне. Словаўтварэнне / Г.У. Арашонкава, В.П. Лемцюгова. – Мінск: Выш. шк., 1994. – 210 с.

2. Беларускі арфаграфічны слоўнік / Пад рэд. А.А. Лукашанца. – 2-е выд., выпр. – Мінск: Беларус. навука, 2010. – 695 с.

## АРФАГРАФІЯ

Пасля вывучэння раздзела “Арфаграфія” студэнт павінен

**ведаць:**
- прынцыпы беларускай арфаграфіі;
- станаўленне сучаснай беларускай арфаграфіі;
- сутнасць фанетычнага, марфалагічнага прынцыпаў, традыцыйных і дыферэнцыйных напісанняў;
- асноўныя правілы перадачы на пісьме галосных, зычных гукаў і іх спалучэнняў;

**умець:**
- вызначаць прынцыпы беларускай арфаграфіі;
- прымяняць на практыцы асноўныя правілы напісання галосных, зычных гукаў і іх спалучэнняў;
- вызначаць арфаграмы;
- умець выконваць арфаграфічны аналіз слова.

### Асноўныя паняцці:

**Арфаграфія** (ад грэч. *orthos* – правільны, прамы і *grapho* – пішу) **–** 1) раздзел мовазнаўства, які вывучае і распрацоўвае правілы аднастайнай перадачы вуснай мовы на пісьме; 2) складзеная сістэма правіл, што патрабуюць агульна прынятага, абавязковага для ўсіх носьбітаў мовы, унармаванага напісання слоў і іх значымых частак (марфем).

**Арфаграма** (ад грэч. *orthos* – правільны і *gramma* – літара) – напісанне, якое выбрана з шэрагу магчымых і адпавядае патрабаванням арфаграфіі. Гэта літара або спалучэнне літар, пры якіх можа ўзнікнуць цяжкасць у напісанні, і напісанне якіх прадвызначаецца пэўнымі правіламі.

**Апорнае напісанне** – абазначэнне на пісьме фанемы ў моцнай пазіцыі.

**Арфаграфічны прынцып** (ад лац. *principum* – аснова, пачатак) – гэта пэўная заканамернасць, якая звязана за нацыянальнай спецыфікай мовы і на аснове якой грунтуюцца і аб’ядноўваюцца ў групы канкрэтныя правілы напісання.

**Арфаграфічнае правіла** – гэта палажэнне, якое ў адпаведнасці з канкрэтным прынцыпам прапануе нарматыўнае напісанне слоў і іх форм.

**Фанетычны прынцып арфаграфіі** заключаецца ў тым, што напісанне адпавядае літаратурнаму вымаўленню слова і дакладна перадае яго гукавы склад.

**Марфалагічны прынцып** заснаваны на тым, што правілы патрабуюць аднолькавага напісання пэўнай марфемы слова ва ўсіх яго формах і роднасных словах незалежна ад вымаўлення

**Традыцыйныя (гістарычныя) напісанні** патрабуюць захаваць на пісьме старыя гістарычныя напісанні, хоць яны і не адпавядаюць сучаснаму гукавому і марфемнаму складу слоў.

**Дыферэнцыйныя напісанні** патрабуюць размяжоўваць напісанне слоў, якія маюць рознае значэнне, але аднолькавае гучанне.

## Заданні да практычных заняткаў

Заданне 1. *Змяніце або падбярыце аднакаранёвыя словы так, каб літары **о, э** апынуліся не пад націскам. Ці зменіцца іх правапіс ва ўтвораных словах?*

Бор, вока, просты, холад, смолы, сорт, рэдкі, востры, корань, волас, чэрствы, жоўты, горкі, чэсны, шчодры, салодкі, абаронца, грэбці, шоўк, колер, попел, рэўнасць, мова, золата, тэніс, жэст, тэма, матэрыя, тэарэтык, чэх, этыка, хвоя, працэнт, рэйд, Адэса.

Заданне 2. *Устаўце прапушчаныя літары, растлумачце правапіс **а, о**.*

В…дасховішча, д…маўладальнік, д…ўгавечнасць, чырв…надрэўшчык, мн…гастаночнік, пр…ставалосая, с…нцапёк, выс…кагатунковы, м…вазнавец, ф…тадакумент, вел…крос, ф…таграфія, п…ліглот, ст…годдзе, шт…раз, м…тавел…спорт, кін…ф…таплёнка, к…нтрудар, св…еўладства, аэраф…таздымак, п…літэхнікум, арэх…падобны, шэр…вокі, с…рак…годдзе, аўт…трактар…будаванне, ф…ндасх…вішча, к…рм…нарыхтоўка, м…тавоз, м…тацыкл, м…такрос, р…ўнапраўе.

Заданне 3. *Спішыце сказы, устаўце на месцы пропуску літары **о, э, а**.*

1. Ш…паткія к…л…сы ч…пляліся за Аніны рукі, за адзенне, нібы пр…сіліся ўзяць з сабой. 2. Зб…жынка сёння зарунела, і спее к…лас з…л…ты. 3. Х…лад – не г…лад, ноч – не цемень, няма запалак, – затое ёсць кр…мень. 4. Ад н…чных з…м…р…зкаў зямля стала кр…мяністай, гулкай, тр…ва ў с…дку ўся пабялела. 5. Мне вельмі д…бра адчуваць пад н…гамі …сфальт тр…туараў, л…віць с…рцам нейкі асаблівы рытм г…р…дскога жыцця. 6. Нагр…тыя с…нцам ц…гляныя гмахі д…моў дыхалі г…р…чынёй, нібы печы. 7. Калі ўлетку на сонцы не папяч…шся, то ўзімку з х…ладу натр…сешся.

Заданне 4. *Устаўце прапушчаныя літары і растлумачце іх правапіс.*

Р…ф…рма, ш…лясцець, пр…сн…в…дны, майст…р, ш…рсцяны, літ…р…тура, ч…мпіён, р…м…нт, с…рц….зн…вец, прыч…саць, ш…р…в…кі, р…стр…саць, р…дк…лессе, лат…р…я, р…зьба, р…сурс, др…в…стой, пан…ль, Хас…, р…зюм…, кап…ла, ж…мчужына, менедж…р, шніц…ль, лід…р, камп’ют…р, Юпіт…р, Од…р, сурв…тка, к…рц…р, п…йдж…р, орд…р, рэйсфед…р.

Заданне 5. *Змяніце або падбярыце аднакаранёвыя словы так, каб літары **е, ё** апынуліся не пад націскам. Растлумачце правапіс галосных у ненаціскных складах.*

Бераг, вечар, бяссмерце, ведаць, веліч, адзенне, лекі, елка, жалеза, жыццё, забяспечыць, завершанасць, заезд, маслёнка, клён, сем, мелкі, спёка, дзень, дзесяць, дзевяць, білет, лекцыя, Бельгія, геній, секта, кларнет, кліент, агент.

Заданне 6. *Спішыце словы, устаўце прапушчаныя літары і растлумачце іх правапіс.*

Т…рызм, ак…м…лятар, Д…най, укл…чаць, ф…ндамент, К…вейт, б…рштын, ж…ры, Н…рберг, Бр…сель, дэб…тант, м…зікл, Ц…мень, м…ск…лат…ра, Т…ркестан, ф…т…рыст, ад’…тант, інтэрв’…, дз…на.

Заданне 7. *Спішыце, устаўце прапушчаныя літары, растлумачце правапіс.*

В…гн…трывалы, к…рманарыхтоўка, аз…тн…кіслы, м…в…знаўчы, т…рф…ўборачны, ш…сцісот, с…мсот, кр…дыт…здольнасць, с…мнаццаць, к…фір, б…змежны, б…скарысны, н…пісьменны, тыс…ча, м…с…ц, ц…гавіты, сув…зь, бо…зь, се…лка, с…н…касілка, в…рхн…азёрскі, в…лік…душны, в…лікарускі, В…лікабрытанія, в…лікагаловы, м…р…з…ўстойлівы,

ільн…валакно, з…рн…ўб…рачны, л…гкаатлетычны, л…д…рэз, крыв…творны, сцв…рджанне, сцв…ржэнне, п…чора, г..ройскі, Х…рсон, ц…гнік, с…мігадовы, жыцц…сцв…рджальны, з…рн…сушылка, в…с…мсот, в…шчун, з…мл…апрацоўчы, гор…ч, в…гн…тушыцель, х…р…кт…рыстыка, др…вастой, канц…лярыя, р…сурс, в…сло, кал…ндар, с…ржант, акрыл…ны, ц…р…монія, бр…зент, р…ф…р…ндум, інж…нер, экз…мпляр, д…фект, кар…спандэнт, в…с…мнаццаць, в…рас…нь, кал…ктыў, п…ч…рк, майст…р, пр…сн…водны.

Заданне 8. *Устаўце літары* ***і, ы***. *Растлумачце іх правапіс.*

Без…дэйнасць, без…менны, без…ніцыятыўны, уз…грацца, між…нстытуцкі, раз…сціся, дэз…нфекцыя, з…мшэлы, ц…тата, Транс…арданія, дэз…нфармацыя, н…г…л…ст, контр…гра, т…раж, р…нг.

Заданне 9. *Устаўце, дзе патрэбна, прыстаўныя галосныя.*

Вока…мгненна, на…лгаць, …мкненне, …мчаць, …лгаць, я …лгу, пакрыцца …ржой, …ржаны, па …льготнай чарзе, …мжаць, …ржышча, …мкнуцца, …мшысты, …рвануць, па…мкнуцца, за…рдзець, за…ржавець, выраб з …льну, сукенка …льняная, пры…мчацца.

Заданне 10. *Устаўце прапушчаныя літары ў наступных словах. Растлумачце іх правапіс.*

Ма…н…з, в…н…грэт, акс…ма, п…нер, І…сіф, і…нізацыя, …тацыя, абітур…нт, канв…р, фа…, …хант, л…льны, пл…да, сакв…ж, кал…н, мадз…р, міл…рдэр, б…логія, Гес…д, кард…лаг, эф…п, пал…літ, асац…цыя, б…тлон, энтуз…зм, фартэп…на, І…н, пер…дычны, …даформ, ід…л, д…гназ, ар…л.

Заданне 11. *Запішыце словы парамі – па-руску і па-беларуску. Ахарактарызуйце правілы напісання галосных у словах іншамоўнага паходжання.*

Биолог, авианосец, авиация, автомобилист, автобиография, аккордеон, бастион, биограф, виолончель, гениальный, грандиозный, диагноз, диаметр, диатез, идеальный, йод, ётация, киоск, леопард, неон, Майя, пианино, район, миллиард, миллионный, майор, фойе, театр, каноэ, фейерверк, идиома, лауреат, идеология, ассоциация, мемориал, ореол, коэффициент, биотоки, аттракцион, пион, диадема, гладиолус, апофеоз, диод, Берлиоз, Иордания, гносеология, реакция, симбиоз, Орлеан, диалект, олимпиада, плагиат, мелиорация, павиан, радио, шпион, зодиак, киоск, антивоенный, цивилизация, имажинист, ритм, трибуна, тираж, стилистика, тигрица, циферблат, ринг, практика, цитрус, античный, Докшицы, демократизм, дизель, радикюль, стерильность, динамо, адажио, фиалка, гиацинт.

Заданне 12. *Змяніце або падбярыце роднасныя словы для праверкі напісання зычных.*

Стужка, просьба, касьба, перабежчык, пясчаны, аб'ездчык, загадка, дзядзька, мароз, стог, мантаж, уразрэз, барацьба, гразкі, на рэчцы, на кладцы, у хустачцы, грузчык, градка, малацьба, дождж, рэдзька, дарожка, прыказка, носьбіт, гараж, змазка, кораб, галубка, выраз, узмежкі, суседскі, гладкі.

Заданне 13. *Запішыце побач словазлучэнні па-руску і па-беларуску. Растлумачце правапіс* ***д, т, дз, ц***.

Социальная защита, авторитет, коллектив, дедукция, декабрист, декларация, декрет, деколонизация, действие, держава, демократия, деформация, деятель, диалектика, позиция, диктатура, античность, теология, догматика, теоретическая дискуссия, Тироль, Тихий океан.

Заданне 14. *Запішыце словы ў фанетычнай транскрыпцыі.*

Рэзка, адказ, бясколерны, абкатка, касьба, апальванне, адход, абскрэбці, абцяжка, загадчык, адпрэгчы, адцвісці, адчапіць, акорд, бераг, брод,

бяскрыўдны, бяззбройны, бязлессе, важкі, дождж, расчараванне, расчыніць акно, рашчыніць цеста, бярэшся, расшыць, разжаліць, расшумецца, вучышся, зжынаць, стараешся, возчык, продаж.

Заданне 15. *Устаўце прапушчаныя літары* ***д, т, дз, ц****, растлумачце іх правапіс.*

С…яна, …ікі, поста…ь, таварыс…ва, …ір, ча…вер, ін…еец, Ар…эк, Ма…вей, …ве, ар…ылерыя, ме…ыцына, каран…ін, ха…ьба, сту…ёны, сту…энт, бар…юр, …ысплей, ерэ…ык, Гаі…і.

Заданне 16. *Устаўце літары* ***у*** *ці* ***ў****. Растлумачце напісанне слоў.*

На …злеску, урачыста-…знёслы, ліноле…м, для …нука, радаснае "…ра", жанчына-…рач, еса…л, стра…с, кло…н, фа…на, ба…л, со…с, а…кацьь, ма…зер, мане…р, а…тамат, пакга…з, ла…ровы, рады…с, шэдэ…р, ва …збекістане, па…за, э…каліпт, ла…рэат, е…рапейскі, Люблінская …нія, ва …ладзівастоку, А…рора, …зус, Гродзенскі …ніверсітэт, чулася а…канне, са..на, ра…нд.

Заданне 17. *Вызначце, у якіх словах пішуцца падоўжаныя літары, а ў якіх – падвоеныя.*

Ган(нн)а, палоз(зз)е, лісц(цц)е, Ін(нн)а, трыц(цц)ац(цц)ю, палес(сс)кі, асудж(ддж)ан(нн)ы, ван(нн)а, мец(цц)а-сапрана, збавен(нн)е, груп(пп)а, вясел(лл)е, сям(мм)ю, тон(нн)а, Іль(лл)я, роўнядз(ддз)ю, збож(жж)а, Адэс(сс)а, мас(сс)аж, ал(лл)ея, суб(бб)ота, крылы(ллі), рэжыс(сс)ёр, адушаўлён(нн)ы, кас(сс)а, мыш(шш)у, Мек(кк)а, пан(нн)а, піц(цц)а, Натал(лл)я, Тац(цц)яна, Юльяна(лляна), грам(мм)атыка, панурасц(цц)ю.

Заданне 18. *Перакладзіце словы на беларускую мову. Падкрэсліце літары, якія адрозніваюцца ў абедзвюх мовах.*

Корреспондент, баррикада, моллюск, гамма, режиссёр, антенна, терраса, эпиграмма, новелла, баллон, корректура, сессия, аббат, диаграмма, аллергия, миллиметр, колонна, коммюнике, пресса, террор, барокко, агрессия, металлист, каравелла, аппендицит, миссионер, автоpaлли, массаж, компрессор, миллион, муссон, абсцисса, артиллерия, классический, коллега, аббревиатура, ассортимент.

Заданне 19. *Запішыце словы, устаўляючы, дзе трэба, прапушчаную зычную. Растлумачце напісанне.*

…ольха, …урна, еса…ульскі, па…охрыць, …офіс, за…астрэнне, у…ачавідкі, …об, … урбановіч, па…учок, …унія, …обыск, …отум, …охра, …угал, …унікум, …опіум, …оцат, …уюн, …абласны, на…огул, у…огуле, …увага, Бела…усаў, …оспа, …ойкаць, Матэ…уш, Тадэ…уш, …удзільна, …окісь, …урад, за…ушніцы, …обземлю, …одступ, на…одшыбе, …окаць, …одум, …одпуск, …обыск, ні…одзін, Радзі…он, …ода, …ом, …усцішна, ці…ун, …ультра, …устрыца, …этулькі, …эй, ад…этуль.

Заданне 20. *Устаўце, дзе трэба, прапушчаныя літары і растлумачце напісанне.*

Кантрас…ны, праяз…ны, Гумбаль…т, фаршта…т, міласэр…насць, аблас…ны, поз..на, пос…ны, пырс…нуць, віс…нуць, Шмі…т, жалас…лівы, бязлітас…ны, фарпос…ны, ціс…нуць, рас…таноўка, бяс…мерце, ра…шчапіць (ядро), рас…траляны, ра…чоска, бру…чатка, гу…чар, зайздрос…ны, ра…часаць, ра…чыніць (акно), ра…чыніць (цеста), рас…ступіцца, без…зямелле, ра…сада, рас…ол, улас…ны, ро…чына, у…чуваць, пя…чаны, ра…шчодрыцца, нацiс…ны, ра…скубсці, пя…чаннік, бя…струнны, карыс…ны, …чапіць, намес…нік, ра…сартаваць, ра…збpоіць, ра…злаваць, хры…чоны, Бран…т.

Заданне 21. *Устаўце і растлумачце, дзе трэба, прапушчаныя літары, якія з'яўляюцца на стыку кораня і суфікса.*

Беларус…кі, матрос…кі, хакас…кі, чаву…кі, туніс…кі, прус…кі, маста…кі, салда…кі, адэс…кі, скрыпа…кі, дзяво…кі, уладзівасто…кі, беласто…кі, гарадо…кі, брэс…кі, спаборні…тва, каза…кі, таджы…кі, узбе…кі, (нью) ё(йо)р…кі, касаблан…кі, мін…кі, бас…кі, мно…тва, кня…тва, гара…кі, сусе…кі, старадаро…кі, францу…кі, беся…скі, каза…скі, латы…кі, вол…кі, пецяр…бур…кі.

Заданне 22. *Запішыце словы па-беларуску і растлумачце ў іх напісанне спалучэнняў зычных.*

Шмидт, устный, бессердечный, поздно, милосердный, Брандт, капустный, отдаленный, несчастный, аванпостный, проездной, Кронштадт, форштадт, форпостный, балластный, счастливый, шестнадцатый, расследовать, беззаконие, областной, безвыездно, расслоиться, скоростной.

Заданне 21. *З дапамогай суфікса* ***–ск-*** *утварыце ад назоўнікаў прыметнікі.*

Пінск, Днепр, Буг, Ямайка, Дамаск, чэх, Прага, Давыд-Гарадок, Чашнікі, Каўказ, Прусія, Эстонія, Хакасія, Гандурас, Лаос, Вятка, Квебек, таджык, Бангкок, агент, брат, Цюрых, Бог, шах, Чувашыя, Баранавічы, Нагорны Карабах, купец, шавец, парламент, Сілезія.

Заданне 22. *Спішыце словы, устаўце прапушчаныя літары, растлумачце правапіс прыставак.*

А…шумець, аб…перціся, у…ход, а…казаць, а…чыніць, а…гукнуцца, а…крыць, у…высіць, бя…донны, у…лессе, бя…межны, а…цяніць, а…дзяленне, бя…крайні, у…помніць, ра…чыніцца, сюр…элізм, ак…амадацыя, а…чуванне, у…таць, ра…сыпаць, бя…межжа, бя…шумна, бя…конца, с…гнуць, …мяншацца, ра…галісты, ад…ача, с…івець, бя…смертны, …мправізаваць, ра…гнуцца, а…рвацца, у…кудлачаны, …начыць, …арганізаваць.

Заданне 23. *Устаўце і растлумачце прапушчаныя літары.*

Між…нстытуцкі, ды…гармонія, дэ…нфекцыя, у…чуваць, д…сідэнт, а…корд, с…сці, бе…'языкі, ро…чырк, ды…прапорцыя, за…ка, бя…вопытны, кар…эспандэнт, ра…чыніць акно, ра…чапіць, ра…жаліць, ні…чымны, ро…чына, …часце, спад…лба, мед…нстытут, контр…гра, ад…менны, ра…млець, звыш…мпрэза, пан…сламізм, ад…ходзіць, бе…журботна, ра…шумецца, ра…грацца, без…дэйнасць, ра…саднік, рас…ольнік, за…нелы, за…сці, контр…дэя.

Заданне 24. *Утварыце з дапамогай прыставак і суфіксаў словы. Растлумачце правапіс прыставак.*

**Без-(бес-, бяз-, бяс-):** край, надзея, абарона, імя, плён, памылка, поспех, крыўда, канец, шум.

**З-(с-, са-):** пытацца, вадзіць, рэзаць, сушыць, гнаць, браць, бегчы, рваць, ставіць, жаць, скрэбці, касіць, дзівіцца, кінуць, грузіць, пісаць.

**Раз- (рас-, раза-):** пускаць, везці, слаць, пілаваць, плесці, грэць, гнуць, ганяць, кідаць, капаць, казаць, ламаць.

Заданне 25. *Спішыце словы, устаўляючы, дзе патрэбна, мяккі знак. Растлумачце напісанне.*

Дз…ве, дзядз…ка, бол…ш, п…едэстал, мен…ш, дз…мухавец, сям…ю, вас…мю, ц…мяны, воз…меш, бац…ка, іс…ці, пес…ня, дз…ме, дзец…мі, сядз…ма, дзес…ць, аген…чык, кон…скі, чэрвен…скі, з..яць, цян…-шан…скі, людз…мі, ашмян…скі, смаргон…скі, з…дзівіцца, шэсц…дзесят, дз..веры, мен…шы, усядз…ся, сям…я, глян..це, любан..скі, маладзен…кі, вясел…е, с…нежны, разан…скі, ледз…ве, венесуэл…скі, бразіл…скі, урал…скі, Куз…ма, Ліпен…ская школа, Чэрвен…скі раён, голуб.

Заданне 26. *Устаўце прапушчаны раздзяляльны мяккі знак ці апостраф. Растлумачце.*

Раз…юшаны, крыў…да, ін…екцыя, Лавуаз…е, В…етнам, салаў…і, Іл…я, Кас…ян, Ул..яна, пад…ём, кан…юнктура, абаў…ю, шмат…ярусны, Васіл…еў, Лаўрэнц…еў, Лук…ян, дзярж…юрвыдавецтва, вераб…і, кур…ер, медал…ён, міл…ён, канферанс…е, п…еса, п…яўка, надвор…е, парц…еры, двукроп…е, куп…ё, біл…ярд, кан…як, аб…інець, ад…ютант.

Заданне 27. *Напішыце словы па-беларуску і растлумачце іх правапіс.*

Миллион, мышь, отрежьте, объездить, Соловьёв, триллион, Двина, зверь, твёрдый, ночь, щёлочь, несёшь, нянчить, меньше, курьёзный, трёхъярусный, здоровье, объективный, субъективный, курьер, карьерист, батальон, пьеса, казанский, пиявка, подъезд, серьёзный, Григорьевич, подъёмщик, Сырдарья, семьянин, объездной, подъёмные, взморье, межъярусный.

Заданне 28. *Спішыце, раскрыйце дужкі. Растлумачце правапіс вялікай і малой літары.*

Б(б)рэсцкія вуліцы, Г(г)рамадзянская вайна, Д(д)ом А(а)фіцэраў, паездка па П(п)алессі, Д(д)ом адпачынку, краявіды Б(б)рэстчыны, В(в)ялікая А(а)йчынная В(в)айна, Б(б)рэсцкая шаша, П(п)алескія вёскі, В(в)асілёвы ўспаміны, К(к)упалаўскія мясціны, К(к)оласаўскія Ч(ч)ытанні, Н(н)авагрудскія славутасці, П(п)олацкае К(к)няства, У(у)сяслаў Ч(ч)арадзей, землі К(к)рывічоў, П(п)ярун расшчапіў дрэва, М(м)інскае прадпрыемства, Б(б)елавежская (П)пушча, Д(д)амоклаў меч, С(с)карынаўскі праспект, С(с)карынавы першадрукі, Г(г)енрых Ч(ч)ацвёрты, Ч(ч)арнаморскі курорт, К(к)аралеўства Ш(ш)вецыя.

Заданне 29. *Выберыце правільны варыянт напісання наступных слоў.*

К(к)асцюшкі, Р(р)од С(а)пегаў, О(о)'Н(н)іл, Р(р)экс, В(а)рфаламееўская ноч, М(м)аўзер, Д(д)онжуан, К(к)упалазнаўства, Р(р)нтгенаўскі здымак, Л(л)еанарда Д(д)а В(в)інчы, В(в)ан Г(г)ог, С(с)вяты Д(д)ух, Л(е)савік, Р(р)усалка, З(з)мей-Г(г)арыныч, А(а)тлант, К(к)аза-Д(д)зераза, Б(б)ожа мой, Н(н)ептун, Б(б)ярэзінскі біясферны запаведнік, А(а)б'яднаныя А(а)рабскія Э(э)міраты, М(м)ыс Д(обрай) Н(н)адзеі, Р(р)ыа-Д(д)э-Ж(ж)анейра.

Заданне 30. *Спішыце, раскрыйце дужкі, напішыце словы з малой ці з вялікай літары. Растлумачце іх напісанне.*

(К,к)оласаўскія чытанні, (К,к)рапівоўская творчая манера, (Н,н)асовічаў слоўнік, (К,к)упалаўская стыпендыя, выдавецтва «(Н,н)ародная асвета», (М,м)агеланаў праліў, (М,м)іхасёў сшытак, (А,а)лёнчын аловак, (Г,г)родзенскія паркі, (Б,б)елавежская пушча, (З,з)аходне-Сібірская даліна, (У,у)краінскія стэпы, (Г,г)родзенскі (Дз,дз)яржаўны універсітэт імя Янкі Купалы, (Б,б)еларускі друк, (С,с)тарыя (Д,д)арогі (пасёлак), (Б,б)аркалабаўскі летапіс, (А,а)хілесава пята, (Б,б)рылёўскі стыль, (М,м)іжнародны жаночы дзень, (Л,л)ітоўская метрыка, (А,а)рганізацыя (А,а)б'яднаных (Н,н)ацый, (Д,д)алёкі (У,у) сход.

Заданне 31. *Падзяліце наступныя словы на склады і для пераносу. Параўнайце, ці супадае падзел.*

Калоссе, садзіць, аб'ём, ураджай, аджыць, бульба, майка, беспамылкова, адмахнуць, бокс, дрожджы, падзагаловак, стопрацэнтны, каўказскі, ярус, падбегчы, ледзьве, таварыства, словаўтварэнне, дзеепрыслоўе, гарадскі, мовазнаўства, трынаццаць, праўдалюбства, шматгалоссе, каменны, бясспрэчны, безыдэйны, якая.

Заданне 32. *Запішыце словы разам, праз злучок або асобна. Растлумачце напісанне.*

Фота_мантаж, віцэ_прэзідэнт, васьмі_месячны, бульба_сховішча, трох_літровы, байка_пісец, радыё_механік, лейб_гвардыя, кіна_плёнка,

обер_лейтэнант, сацыял_дэмакратыя, віцэ_адмірал, аўта_транспарт, генерал_лейтэнант, паў_метра, паў_Гродна, Заходне_Сібірская нізіна, хата_чытальня, вучні цудоўна_падрыхтаваныя, архі_важны, многа_нацыянальны, пасля_навальнічная свежасць, пакой дрэнна_асветлены, анты_навуковы падыход, сюжэт грунтоўна_прадуманы.

Заданне 33. *Запішыце назоўнікі разам або праз злучок. Растлумачце правапіс.*

Авія_брыгада, вела_трэк, ды_страфія, а_лагізм, метэа_служба, дву_кроп'е, пан_славізм, віцэ_губернатар, лейб_драгун, аўта_пілот, фота_хімія, аэра_вакзал, кіна_стужка, танц_клас, вярні_дуб, норд_ост, кілават_гадзіна, праца_дзень, чалавека_дзень, блок_пост, экс_сакратар, унтэр_афіцэр, стэрэа_гучанне, макра_свет, красуня_дзяўчына, вакуум_насос, міні_матч, жаба_квакша, сінеча_смуга, гуслі_самаграі, думкі_хмары.

Заданне 34. *Запішыце і растлумачце напісанне ўласных назоўнікаў.*

Блага_вешчанск, Верхня_дзвінск, Красна_полле, Нава_полацк, Светла_горск, Эль_Кувейт, Петра_заводск, Нар'ян_Мар, Ост_Індыя, Усць_Кут, Верхне_вілюйск, Валга_донск, Інда_кітай, Рыо_дэ_Жанейра, Соль_Ілецк, Улан_Удэ, Сан_Сальвадор, Коста_Рыка, Нікалаеўск_на_Амуры, Буда_Кашалёва, Булонь_сюр_Мэр, Міклуха_Маклай, Бадуэн_дэ_Куртэнэ, Гей_Люсак, Гі_дэ_Мапасан, Салаўёў_Сядой, Васка_да_Гама, Сен_Санс, Ван_Дэйк, Мак_Кінлі, Доўнар_Запольскі, Лопэ_дэ_Вега, Шолам_Алейхем, Кёр_аглы, Турсун_задэ, Людвіг_ван_Бетховен, Восьмая_лінія, фон_дэр_Гольц.

Заданне 35. *Утварыце ад словазлучэнняў складаныя прыметнікі, запішыце іх, растлумачце правапіс.*

Сельская гаспадарка, дваццаць кіламетраў, добрая якасць, празрысты і сіні, многа струн, Паўночная Асецiя, вечна зялёны, першы сорт, шырокі верх, жалеза і бетон, сярэднія вякі, высокая кваліфікацыя, Нагорны Карабах, Байкал і Амур, Старыя Дарогі, Далёкі Усход, светлы і блакітны, Заходняя Сібір, многа вады, Новая Гвінея, Цэнтральная Афрыка, любіць свабоду.

Заданне 36. *Запішыце прыметнікі разам, асобна ці праз злучок.*

Чыста_беларускі, глыбока_даследаваны, тэрмінова_скліканы, сарака_тонны, яскрава_вызначаны, шмат_разовы, цвёрда_паліўны, кветка_водчы, алма_ацінскі, красна_ярскі, чарна_бровы, паўночна_заходні вецер, канчаткова_вырашаны, залата_косы, маркотна_журботны, усе_магутны, цэнтральна_еўрапейскі, Цэнтральна_Еўрапейская раўніна, перад_цяньшанскі, сто_гадовы, ваенна_абавязаны, празрыста_сіні, горна_алтайскі.

Заданне 37. *Запішыце словы разам, асобна ці праз злучок.*

На_заўтра, на_зусім, на_колькі, за_летась, на_двая, у_адкрытую, з_большага, у_адно, бес_перастанку, у_шчыльную, да_бяла, с_права, за_тым, ні_за_што, да_шчэнту, на_вобмацак, на_хаду, без_аглядкі, ішлі ў_бок возера, па_беларуску, на_гара, як_раз, як_след, так_сама, што_ночы, у_абцяжку, у_дзень нараджэння, сям_там, спаць па_доўгу, вывучыць на_памяць, па_асобку, па_памяці, што_хвіліны, у_глыб пушчы, па_двое, на_двое, у_двух, па_просту, пад_час, у_ранку, на_век, бес_талкова, не_пад_сілу, не_да_твару, з_гарачкі, як_мага, у_імгненне, на_віду, у_нізе, у_баку закалола, на крыж, перавязаць на_крыж, па_асобку, глядзець у_след, абы_куды, за_мест, хто_сьці, абы_з_якім, хіба_што, усё_роўна, а_ніяк, такім_чынам, па_за, з_паміж, о_го_го, казаў_жа.

## Пытанні і заданні да самакантролю

1. Што вывучае арфаграфія?
2. Што такое арфаграма і апорнае напісанне?
3. На якіх прынцыпах грунтуецца сучасная беларуская арфаграфія?
4. У чым сутнасць фанетычнага прынцыпу арфаграфіі? Якія правілы на ім грунтуюцца?
5. У чым сутнасць марфалагічнага прынцыпу арфаграфіі? Якія правілы на ім заснаваны?
6. Раскажыце пра дыферэнцыйныя і гістарычныя напісанні.
7. Як выпрацоўваліся і складваліся нормы сучаснай беларускай літаратурнай мовы?
8. Калі адбылося апошняе ўдакладненне беларускага правапісу?
9. У чым сутнасць акання і якання?
10. Ці ўплывае паходжанне слова і асвоенасць яго ў мове на працэс акання і якання? У якіх словах гэты прынцып не дзейнічае? Прывядзіце прыклады.
11. Раскажыце пра напісанне літар ***о, э, а***.
12. У якіх выпадках у першай частцы складаных слоў пішуцца ***о, э, а е, я, ё***? Прывядзіце прыклады.
13. Як пішацца часціца ***не*** і прыназоўнік ***без***? Ці зменіцца іх напісанне, калі ***не*** і ***без*** з'яўляюцца прыстаўкамі?
14. Ці захоўваецца напісанне каранёвага ***я*** ва ўсіх словах?
15. У якіх выпадках узнікаюць прыстаўныя галосныя?
16. Раскажыце аб напісанні літар ***у, ю*** ў словах.
17. Раскажыце аб напісанні літар ***і, ы*** пасля прыставак.
18. Чым падваенне адрозніваецца ад падаўжэння?
19. У чым сутнасць дзекання і цеканя? У якіх выпадках [д] і [т] пераходзяць у [дз'] і [ц']? Калі гэтага не адбываецца?
20. Калі пішацца ***ў***? У якіх выпадках гук [у] не чаргуецца з [ў]?
21. Раскажыце аб напісані прыстаўных літар ***в*** і ***г***.
22. Прывядзіце прыклады слоў, у якіх спрасціліся групы зычных ***здн, стн, лнц, рдц, рдн, стл***.
23. Раскажыце пра напісанне літары ***ц*** на месцы спалучэнняў ***тс, чс, кс, цс***, літары ***с*** на месцы спалучэння ***сс***.
24. У чым асаблівасць напісання спалучэнняў ***гс, жс, шс, хс***? Як вымаўляюцца гэтыя спалучэнні?
25. Як пішуцца спалучэнні зычных на стыку прыстаўкі і кораня, кораня і суфікса? У якіх словах літары не падвойваюцца? Прывядзіце прыклады.
26. Раскажыце пра напісанне мяккага знака. Калі мяккі знак не пішацца? Прывядзіце прыклады.
27. Калі пішацца раздзяляльны мяккі знак? Якая яго функцыя?
28. У якіх выпадках патрэбна пісаць апостраф? Калі апостраф не пішацца? Адказ ілюструйце прыкладамі.
29. Раскажыце аб правілах напісання вялікай літары ва ўласных назвах.
30. Якімі правіламі вызначаецца напісанне слоў разам, асобна і праз злучок? Як пішуцца назоўнікі, прыметнікі, лічэбнікі, прыслоўі? Якія

існуюць правілы напісання прыназоўнікаў, злучнікаў, часціц, выклічнікаў?

31. Раскажыце пра напісанне часціц ***не***, ***ні*** з рознымі часцінамі мовы.

32. Раскажыце пра правапіс абрэвіятур і ўмоўных графічных абазначэнняў.

33. Якія існуюць правілы складападзелу? Чым складападзел адрозніваецца ад пераносу слоў і ад падзелу слоў на марфемы?

34. Раскажыце аб правілах пераносу слоў.

**Слоўнікавыя словы:**

Токіа, Ватэрлоа, радыебіялогія, ёдапірын, ётацыя, ётаванне, радыяхімія, радыяграфія, сальта-мартале, філе, камюніке, піке, капэла, сурвэтка, маянэз, тунэль, сервіс, інтэрнэт, медаль, менеджмент, парламент, сервіз, панэль, шынель, шніцаль, шпаталь, карцар, лідар, камп'ютар, пэйджар, тэндар, ордар, менеджар, фарватар, Ландэр, Ордэр, Юпітэр, матавоз, матацыкл, дзявяты, дзясяты, сямнаццаць, васямнаццаць, цецярук, дзевятнаццаты, герой, кефір, непісьменны, безупынны, безапеляцыйны, бескарысны, беспаваротны, сувязь, месяц, япрук, яравы, заяц, тысяча, велікадушны, велікасвецкі, Вялікабрытанія, вялікадзяржаўны, ледарэз, ільновалакно, боепрыпасы, зернясховішча, жыццеапісанне, землекарыстанне, зернебабовы, зернеўборачны, імшара (амшара), іржаны (аржаны), іржышча (аржанішча), прымчацца, вокамгненна, езуіт, пляяда, саквояж, яхант, ятаган, мільярдэр, блок-пост, перакаці-поле, працадзень, якраз, як след.

**Арфаграфічны дыктант па тэме: "Правапіс зычных і іх спалучэнняў"**

Алея, панна, мецца-сапрана, ураджай, каўказскі, праўдалюбства, казьба, пясчаны, вобыск, гарадскі, на кладцы, носьбіт, паддоследны, аўдыторыя, аўдыенцыя, Беларускі дзяржаўны ўніверсітэт, соус, прэзідыум, урна, унія, пакгаўз, намеснік, п'едэстал, увогуле, маёр, малацьба, айсберг, экзамен, вакзал, счарсцвелы, дзвесце, расада, твіст, накцюрн, цюркскі, індзеец, кантрасны, помслівы, Навум, вокіс, вобад, окаць, вохра, каравул, одум, Уэльс, аўдыенцыя, краіна, аўра, падыграць, звышімклівы, Драйзер, узус, траур, фаўна, каўбой, страус, Нью- Ёрк, маянэз, вінегрэт, разысціся, група, Ілья, Наталля, вустрыца, сямнаццаццю, каса, мадонна, па-сваяцку, Мекка, суражскі, грамадскі, бангкокскі, вільнюскі, таварыства, рошчына, расчыніць дзверы, баласны, расшчапіць на дзве часткі, расаднік, расол.

**Спіслітаратуры**

**Асноўная літаратура**


1. Адамовіч, Я.М. Беларуская мова: Зборнік практыкаванняў: вучэб. дапам. / Я.М. Адамовіч, М.І. Касцян, В.У. Ляпёшкін. – 2-е выд. перапрац. – Мінск: Выш. шк., 1993. – 207 с.

2. Беларуская мова ў 2 ч.: Ч.1: падруч. Для навучэнцаў педвучылішчаў і каледжаў / Пад агул. рэд. Л.М. Грыгор'евай. – 3-е выд. Перапрац. і дап. – Мінск: Выш. шк., 1998. – 330 с.

3. Беларуская мова: Фанетыка. Арфаэпія. Графіка. Арфаграфія. Лексікалогія. Лексікаграфія. Фразеалогія. Марфемная будова слова. Словаўтва-

рэнне. Марфалогія. Сінтаксіс. Пунктуацыя: Вучэб. дапам. Для педагагічных ВНУ / Пад. агул. рэд. Л.М. Грыгор’евай. – Мінск, 1994. – 655 с.

4. Бурак, Л.І., Бурак, І.Л. Сучасная беларуская мова: Арфаграфія і пунктуацыя. Практыкум / Л.І. Бурак, І.Л. Бурак. – Мінск: Універсітэцкае, 1993. – 247 с.

5. Грыгор’ева Л.М. Сучасная беларуская мова: Фанетыка. Арфаэпія. Графіка. Арфаграфія. Лексікалогія. Лексікаграфія. Фразеалогія. Марфеміка. Словаўтварэнне. Марфалогія. Сінтаксіс. Пунктуацыя: Зборнік практыкаванняў: вучэбны дапаможнік / Л.М. Грыгор’ева, Г.Ф. Андарала. – Мінск: Выш. шк., 2010. – 368 с.

6. Правілы беларускай арфаграфіі і пунктуацыі. – Мінск: Нац. Цэнтр прававой інфарм. Рэсп. Беларусь, 2008. – 144 с.

7. Сучасная беларуская мова: Фанетыка. Арфаэпія. Графіка. Арфаграфія. Лексікалогія. Лексікаграфія. Фразеалогія. Марфеміка. Словаўтварэнне. Марфалогія. Сінтаксіс. Пунктуацыя: Вучэбны дапаможнік для студэнтаў спецыяльнасці “Пачатковая адукацыя” / Пад агульн. рэд. Л.М. Грыгор’евай. – Мінск: Выш. шк., 2010. – 621 с.

**Дадатковая літаратура**

1. Беларуская мова: Цяжкія пытанні фанетыкі, арфаграфіі, граматыкі / А.У. Падлужны, Л.Ц. Выгонная, Г.К. Усціновіч і інш.; Пад рэд.А.І. Падлужнага. – Мінск: Нар. асвета, 1987. – 144 с.

2. Гіруцкая Л.А. Практыкум па беларускай мове: падрыхт. да тэсціравання і экзамену / Л.А. Гіруцкая. – 2-е выд. – Мінск: ТетраСистемс, 2005. – 128 с.

3. Лепешаў, І.Я. Практыкум па фанетыцы, арфаэпіі, графіцы і арфаграфіі / І.Я. Лепешаў, М.А. Якалцевіч. – Гродна: ГрДзУ, 2007. – 75 с.

4. Цэнтралізаванае тэсціраванне. Беларуская мова: зборнік тэстаў / Рэсп. інстытут кантролю ведаў М-ва адукацыі Рэсп. Беларусь. – Мінск: Аверсэв, 2009. – 96 с.

**Слоўнікі**

1. Арашонкава, Г.У. Кароткі слоўнік беларускай мовы. Правапіс. Вымаўленне. Націск. Словазмяненне. Словаўтварэнне / Г.У. Арашонкава, В.П. Лемцюгова. – Мінск: Выш. шк., 1994. – 210 с.

2. Беларускі арфаграфічны слоўнік / Пад рэд. А.А. Лукашанца. – 2-е выд., выпр. – Мінск: Беларус. навука, 2010. – 695 с.

3. Булыка, А.М. Слоўнік іншамоўных слоў: У 2 т. / А.М. Булыка. – Мінск: Бел. Энцыкл., 1999. – 2 т.

## ЛЕКСІКАЛОГІЯ

Пасля вывучэння раздзела “Лексікалогія” студэнт павінен

**ведаць:**
- азначэнне лексікалогіі як асобнай галіны мовазнаўства;
- ролю беларускай мовы ў працэсе станаўлення і развіцця народнасці, нацыіі;
- сістэмныя адносіны ў лексіцы;
- аспекты вывучэння лексікі;
- нормы сучаснай беларускай літаратурнай мовы;
- асноўныя тэарэтычныя работы па вывучаемым раздзеле курса “Беларуская мова”.

**умець:**
- выкарыстоўваць тэарэтычныя веды і рэсурсы беларускай мовы з улікам стылістычнай дыферэнцыяцыі ў прафесійнай дзейнасці;
- рэалізоўваць нарматыўную базу беларускай мовы ў маўленчай дзейнасці;
- выконваць лексічны аналіз слова;
- граматна карыстацца вуснай і пісьмовай мовай.

### I. Сістэмныя адносіны ў лексіцы

#### Асноўныя паняцці:

**Лексіка** (ад грэч. *lexikos* – які адносіцца да слова) – гэта сукупнасць усіх слоў пэўнай мовы, яе слоўнікавы склад.

**Лексікалогія** (ад грэч. *lexikós* – які адносіцца да слова і logos – вучэнне) – раздзел мовазнаўства, які вывучае слоўнікавы, лексічны склад мовы.

**Слова** – гэта фанетычна і граматычна аформленая адзінка мовы, якая мае пэўны сэнс і аднолькава разумеецца калектывам людзей, аб’яднаных як адзін этнас.

**Лексічнае значэнне** слова – гэта яго сэнсавае, семантычнае напаўненне, якое гістарычна замацавалася за пэўным гукавым комплексам і з’яўляецца адлюстраваннем аб’ектыўнай рэальнасці.

**Граматычныя значэнні** слова – гэта абстрактныя значэнні, што выяўляюцца ў прыналежнасці слова да пэўнага класа і выражаюцца фармальнымі сродкамі (канчаткамі, суфіксамі, прыстаўкамі, націскам).

**Мнагазначнасць або полісемія** (ад грэч. *poly* – многа, *sēma* – знак) – уласцівасць слова мець некалькі лексічных значэнняў.

**Метафара** (ад грэч. *metaphora* – перанясенне) – выкарыстанне слова ў пераносным значэнні, якое развіваецца на аснове падабенства двух прадметаў або з’яў у выніку ўвасаблення, апрадмечвання, абстрагавання.

**Метанімія** (ад грэч. *metonymia* – перайменаванне) – перанос назвы на іншы прадмет ці з’яву на падставе знешняй ці ўнутранай сувязі паміж імі.

**Сінекдаха** (ад грэч. *synekdoche* – суаднясенне, суперайманне) – перанос назвы, замена аднаго паняцця другім на аснове колькасных прымет.

## Заданні да практычных заняткаў

Заданне 1. *Ці ўсе пададзеныя словы маюць лексічнае і граматычнае значэнне і выконваюць намінатыўную функцыю. Адказ абгрунтуйце.*

Студэнт, універсітэт, дэкан, дэканат, стыпендыя, але, магчыма, ён, той, экзамен, пад, сто, ой, мужнасць, які, дарога, горад, смелы, спяваць, на, гарадскі, маляваць, прыгожы.

Заданне 2. *Выпішыце з тэксту словы – матываваныя назвы.*

Шпакі і ластаўкі – драбяза, якой, каб і вельмі хацелася, не палічыш. І гэта – прыемнае адчуванне, нібы на зоркі гледзячы, таксама незлічоныя. А бусел – у нас яшчэ кажуць бацян – адзін са сваёй буслiхай, і мы іх віталі, можна сказаць, персанальна. Убачыўшы першага бацяна, мы іх радасна віталі, а дарослыя дзяўчаты ледзь не плакалі, заўважыўшы яго не ў палёце, а ўжо на гняздзе: замуж сёлета выйсці не ўдасца. (Я. Брыль)

Заданне 3. *Выпішыце словы, якія ўжыты ў пераносным значэнні. Асобна ўкажыце іх прамое значэнне.*

Глядзіць у вокны зімні вечар. Кладзецца змрок на цесны двор. Мароз – мастак рукой старэчай на шыбах піша свой узор (Я. Колас). Маўчала возера ў тумане, ды вербы плакалі ў цішы, на дне сінеючае твані, лілеі вецер варушыў. (П. Трус).

Заданне 4. *Паводле спалучальных (сінтагматычных) магчымасцей выдзеленых слоў вызначце іх значэнні (свабодныя, фразеалагічна звязаныя, сінтаксічна абумоўленыя, канструктыўна абумоўленыя).*

Доўга хлопцы **блукалі** па лесе, заглядалі ў кожны куток, шукаючы якую-небудзь **спажыву** (Я. Маўр). Вочы яго **блукалі** па натоўпе, нібы шукаючы каго-небудзь (М. Лынькоў). Рынак ёсць рынак, натоўп кішма **кішыць** (І. Новікаў). Другі быў **стары** ўжо іншай натуры: вечна надзьмуты, насуплены. Хмуры – надзвычай важная з выгляду **шышка**! (Н. Гілевіч).

Заданне 5. *Выпішыце з ТСБМ пяць-шэсць слоў, якія маюць, акрамя асноўнага намінатыўнага значэння, вытворна-намінатыўныя (вытворна-прамое і вытворна-пераноснае).*

Заданне 6. *З тэксту выпішыце па чатыры-пяць адназначных і мнагазначных слоў. Карыстаючыся ТСБМ, запішыце іх значэнні.*

Веснавая цёплая ноч толькі што апранула зямлю і раскідала свае таемныя чары, поўныя крыху смутнага хараства. Першыя зоры ўжо замігцелі то там, то сям у бяздонным небе, а з-за лесу залатым пажарам узнімаўся кругам блішчаты месяц (Я. Колас).

Заданне 7. *Выпішыце метафары, метанімії і сінекдахі, выявіце сярод іх агульнамоўныя, вобразна-паэтычныя і індывідуальна-аўтарскія.*

Плылі марудна дні за днямі (Я. Колас). Спеў неўзабаве сціх. Цяпер ляжала ў Куранях вялікая, халодная ноч (І. Мележ). Гэта быў не той зялёны хлопец, які вадзіў касою з гонарам (І. Мележ). У лузе вербы гаманілі, маўчала поле за сялом, і ў сініх зорах небасхілу зарою неба зацвіло (П. Трус). Людзей залатых атрымалі вы (І. Мележ). Я табун сцерагу, а ў ім сто галоў (М. Лынькоў). Потым Віктар чытаў Ясеніна (І. Навумовіч). “Каму адсунуцца?” – крыкнула рагатая шапка (І. Пташнікаў). Ганна была задаволеная, што школа жыла з ранку да вечара (І. Мележ). Ці багатыя тут лясы і рознай птушкай і звярамі, арэхам, ягадай, грыбамі? (Я. Колас). Як ты (кветка), пастаўленая ў крышталь, будзіш у сэрцы і радасць, і жаль (М. Арочка).

Заданне 8. *Якія з падкрэсленых слоў з'яўляюцца мнагазначнымі, а – якія амонімамі?*

Піла ваду – піла вострая, ліпкі ліст – ліпкі маладыя, палявы стан – стан дзяўчыны, жартуе чалавек – жартуе прырода, крыло самалёта – крыло птушкі, варожая міна – сур'ёзная міна, рукаў паліто Заданне – рукаў ракі, каса пясчаная – каса кляпаная.

9. *Складзіце і запішыце сказы са словамі-амонімамі, якія маюць наступныя значэнні*: стан[1] – тулава чалавека; стан[2] – лагер, месца стаянкі; стан[3] – вялікая машына для буйных металічных вырабаў; стан[4] – становішча, у якім што-небудзь знаходзіцца. Бабка[1] – матчына або бацькава маці, бабуля; старая жанчына; бабка[2] – страва з дранай бульбы, запечанай у форме; бабка[3] – некалькі снапоў збожжа, састаўленых пэўным чынам на ніве.

Заданне 10. *Да якога віду амонімаў адносяцца ніжэй прыведзеныя словы і пары слоў?*

1. Гасцінец, лава, кадры, зычны, спаў (ад "спаць" і "спадаць").
2. Ёд – ёт, грып – грыб, казка – каска, грубка – групка.
3. Вусны ("не пісьмовы" і "губы"), май (ад "мець" і "назва месяца"), пакрывала ( ад "пакрываць" і "посцілка"), грызлі (ад "грызці" і "мядзведзь").
4. Кара –кара, пара – пара, яму – яму, братам – братам, кавалі – кавалі.

Заданне 11. *Знайдзіце амонімы і вызначце іх тып.*

1. Добра хвошча свежы душ, вострай рыфмай чэша. Паднялася якасць душ і працэнт усмешак (В. Вітка). 2. Ткуць зоры і месяц яму свае шаты (Я. Колас). 3. А праз месяц, як восень жоўты ліст рассыпала, злегла хворая Люба (К.Чорны). 4. Паўз сцяны стаялі лавы, і печ, і сцены ўсе каравы (Я. Колас). 5. Я бачу роўныя пакаты палёў за Нёманам і іх шаты – аўсоў палоскі, лавы жыта, што морам золата разліта (Я. Колас). 6. З сарваных люкаў цыстэрны вырывалася агністая лава (Я. Колас). 7. Каня быстрая сціхае і не просіць: "піць-піць-піць!" (Э. Агняцвет). 8. Нібы каня, я верш падкую умела рыфмай адмысловай (А. Вольскі).

Заданне 12. *Выпішыце з ТСБМ чатыры-пяць мнагазначных слоў і чатыры-пяць амонімаў, параўнайце іх слоўнікавыя артыкулы.*

Заданне13. *Вызначце граматычную структуру, марфалагічную прыналежнасць і сэнсавае значэнне паранімічных пар.*

Дыялект – дыялектызм, дыпломнік – дыпламант, чытач – чытальнік, давер – даверлівасць, сумненне – сумленне, спадчына – спадчыннасць, рэальны – рэалістычны, баявы – баявіты, эфектны – эфектыўны, асобны – асабовы – асабісты, дробны – дробязны, пісьмовы – пісьменны.

Заданне 14. *Складзіце словазлучэнні, падабраўшы да кожнага назоўніка прыметнік у патрэбнай форме.*

1. (Шаўкавісты, шаўковы) трава, гальштук, сукенка, валасы.
2. (Пясчаны, пясочны) бераг, дно, глеба, скрыня, камень.
3. (Перадавы, пярэдні) рад, калгас, кола, брыгада, сцяна.
4. (Лясны, лясісты) мясцовасць, ягады, звер, глухамань, паветра, трава.
5. (Даходлівы, даходны) тлумачэнне, месца, гаспадарка, манера, галіна.
6. (Дробны, дробавы) каменне, групы, лік, лічэбнікі, лісточкі, пясок, гандаль.

7. (Дымны, дымавы, дымчаты) завеса, хмары, колер, паветра, порах.
8. (Класны, класічны, класавы) сход, баі, твор, журнал, спадчына, вагон, дошка, барацьба.

Заданне 15. *Выпішыце з тэксту сінонімы. Пасля кожнага сінанімічнага слова ў дужках укажыце, з якім значэннем ужываецца яно ў кантэксце. Пісьмова растлумачце, да якіх сінонімаў (семантычных, стылістычных, семантыка-стылістычных, кантэкстуальных) належаць выпісаныя словы.*

Дык вось, калі падумаеш глыбей, прыгледзішся больш уважліва і пільна, дык аказваецца, што Радзіма – гэта і тыя добрыя людзі, з якімі ты ступіў у жыццё, якія заўсёды гатовы пайсці табе на дапамогу і дзеля якіх сам ты гатовы на ўсё самае слаўнае і выдатнае і на ўсё самае скрушнае і цяжкае – нават на смерць.

Радзіма – гэта і сонца ў цябе над галавою, і паветра, якім дыхаеш, гэта і вернасць твайго друга, і мова, якую даў табе народ, і песня, што засталася ад прадзедаў, і тая сонечная дарога, якой сёння ты ідзеш горда ў сваю будучыню. І вось чаму кожны чалавек без сваёй Радзімы – нішто, без Радзімы няма чалавека, няма жыцця, і вось чаму так радасна б'ецца ў кожнага сэрца, калі ён чуе пра славу і поспехі свайго роднага краю, пра шчасце і новыя ўзлёты дарагіх і знаёмых людзей. (*К. Кірэенка*)

Заданне 16. *З прыведзеных лексічных груп утварыце сінанімічныя рады, ставячы на першае месца дамінанту. Вызначце значэнне, функцыянальна-экспрэсійную афарбоўку сінонімаў і іх структурныя тыпы.*

1. Скоры, хуткі, жвавы, спрытны, рухавы, паваротлівы, шпаркі, вяртлявы, імклівы, імгненны. 2. Расказаць, апавядаць, баяць, гарадзіць, вярзці, плесці, паведамляць, перадаваць, растлумачваць. 3. Імкненне, мара, жаданне, хаценне, ахвота. 4. Надаядаць, дакучаць, назаляць, непакоіць, турбаваць, перашкаджаць. 5. Пераліваецца, мігцець, ззяць, зіхацець, бліштаць. 6. Перажыванне, хваляванне, неспакой.

Заданне 17. *Вызначце стылістычныя і семантычныя адрозненні прыведзеных сінонімаў.*

Абмануць, абкруціць, абвесці вакол пальца; папраўіцца, выздаравець, ачухацца, ачуняць; біць, лупіць, хвастаць; твар, лік, морда, пыса; прыязны, добразычлівы, сяброўскі; будаўнік, архітэктар, зодчы; пабудаваць, узвесці, адгрукаць; добра, цудоўна; папулярнасць, слава; злосны, бессардэчны.

Заданне 18. *Падбярыце да ніжэйпрыведзеных слоў сінонімы і складзіце сінанімічныя рады.*

Вялікі, распаўсюджанасць, смеласць, бачыць, ісці, многа, цемра, натоўп.

Заданне 19. *Да іншамоўных слоў падбярыце адпаведныя беларускія. Складзіце сказы з трыма парамі гэтых слоў і скажыце, ці ёсць розніца ў іх ужыванні.*

Арфаграфія, інтуіцыя, ініцыятар, кантраст, атэлье, дэфект, юбілей, іронія, п'едэстал, антракт, персанаж, фрагмент, лідар, перспектыва, эталон, эфект.

Заданне 20. *Выпішыце са "Слоўніка сінонімаў і блізказначных слоў" М. Клышкі тры сінанімічныя рады. Вызначце (вусна) адрозненні паміж сінонімамі ў радзе (адценне значэння, стылістычная афарбоўка, ужывальнасць, лексічная спалучальнасць).*

Заданне 21. *Выпішыце антанімічныя пары слоў. Вызначце, па якіх прыметах (часавых, прасторавых і г.д.) яны адрозніваюцца, да якіх часцін*

*мовы належаць і якую маюць структуру (аднакарэнныя, рознакарэнныя). Аднакарэнныя антонімы падкрэсліце.*

1. Над адным канцом гэтай звычайнай вуліцы, як і ўсюды, чаргуецца дзень і ноч, раніца і вечар, а над другім – не заходзячы шчыруе сонца (Я. Сіпакоў). 2. Зярнятку трэба загінуць у чорнай раллі, каб выжыць (Н. Мяцяж). 3. Спакон вякоў было такое: смяюцца людзі, людзі плачуць (Г. Далідовіч). 5. А на зямлі і шчасце, і вайна, дабро і зло ў адвечнай жорсткай схватцы (І. Навуменка). 6. Разбягаюцца думкі, збягаюцца (І. Гурскі). 7. Была ты, дарожанька, непрыглядную, стала ты, дарожанька, ненаглядную (Р. Барадулін). 8. Дзверы адчыняліся і зачыняліся (Я. Колас).

Заданне 22. *Успомніце і запішыце прыказкі, у якіх ёсць антонімы **густа-пуста, мякка-цвёрда, лета-зіма, горкая-салодкая, вялікі-малы, лёгка-цяжка.***

Заданне 23. *Пры дапамозе прыставак утварыце новыя словы. Складзіце 8-10 сказаў з утворанымі антонімамі (на выбар).*

1) ***у-, вы-*** : лятаць, вадзіць, лазіць, ехаць, хадзіць, бегаць, капаць;
2) ***неда-, пера-*** : выканаць, браць, варыць, даць, сыпаць, саліць;
3) ***пры***-, ***ад***- : ганяць, несці, везці, каціць, цягнуць;
4) ***раз-, з- :*** вязаць, чакаць, складваць, стаўляць, кляпаць, біць.

**Пытанні і заданні для самакантролю**

1. Што такое лексікалогія і што з'яўляецца аб'ектам яе вывучэння?
2. Які сэнс укладваецца ў паняцце "лексіка" і ў якіх адносінах яна можа вывучацца?
3. З якіх раздзелаў складаецца лексікалогія і што яны вывучаюць?
4. Што такое лексічнае і граматычнае значэнні слова?
5. Ці ўсе часціны мовы маюць лексічнае і граматычнае значэнне?
6. Назавіце асноўныя спосабы ракрыцця лексічнага значэння слова.
7. Што такое слова? Якія характэрныя прыметы яму ўласцівы?
8. Чым адрозніваецца слова ад словазлучэння, фанемы, марфемы?
9. Што значыць матэрыяльны і ідэальны бок слова?
10. На падставе чаго класіфікуюцца лексічныя значэнні слоў?
11. Якія тыпы лексічных значэнняў вылучаюцца па ступені лексічнай спалучальнасці слова з кантэкстам? Праілюструйце кожны тып лексічнага значэння прыкладамі.
12. Якія тыпы лексічных значэнняў адрозніваюцца паводле адносін слова да прадметаў і з'яў рэчаіснасці? Ахарактарызуйце кожны з іх.
13. Якія назвы называюцца матываванымі і нематываванымі?
14. Якія словы называюцца адназначнымі і мнагазначнымі?
15. Як развіваецца мнагазначнасць (полісемія) слоў?
16. Што разумеецца пад прамым і пераносным значэннем слова?
17. Якія віды пераносных значэнняў адрозніваюцца ў мове?
18. Дайце вызначэнне метафары.
19. На якія групы падзяляюцца метафары паводле ступені вобразнасці і іх ролі ў мове?
20. Чаму не ўсе віды метафар адлюстроўваюцца ў тлумачальных слоўніках?
21. Што такое метанімія? На чым засноўваецца метанімія як від пераноснага ўжывання слоў?
22. Ахарактарызуйце сінекдахічныя пераносы.

23. Як выкарыстоўваецца мнагазначнасць ў маўленні? Якімі прыёмамі дасягаецца эфектыўнае выкарыстанне мнагазначнасці?
24. Што такое аманімія? Амонімы?
25. Як падаюцца амонімы ў слоўніку ў параўнанні з мнагазначнымі словамі?
26. Якія існуюць спосабы адрознення амонімаў ад мнагазначных слоў?
27. Якія тыпы амонімаў вылучаюць?
28. Якія амонімы называюцца міжмоўнымі?
29. Як узнікаюць амонімы?
30. Адзначце выпадкі стылістычнага ўжывання амонімаў.
31. Якімі структурна-граматычнымі, фанетыка-арфаэпічнымі і семантычнымі адметнасцямі вызначаюцца паронімы?
32. Якія найбольш частыя памылкі сустракаюцца ва ўжыванні паранімічных назваў?
33. Чым адрозніваюцца паронімы ад амафонаў?
34. Што такое паранамазія? Якая розніца паміж паранімiяй і паранамазіяй?
35. Што такое сінонімы? Чым адрозніваюцца паміж сабой сінонімы?
36. Якія тыпы сінонімаў вылучаюць? Ахарактарызуйце іх.
37. Дайце характарыстыку эўфемізмам як разнавіднасці сінонімаў.
38. Якая розніца паміж перыфразамі і адпаведнымі ім па значэнню словамі-назвамі?
39. Раскрыйце значэнне сінанімічнага рада і дамінанты.
40. Ці могуць у сінанімічным радзе побач з асобнымі словамі ўваходзіць семантычна або сінтаксічна звязаныя спалучэнні слоў?
41. Што азначае тэрмін “незамкнуты сінанімічны рад”?
42. Чым слоўнік сінонімаў адрозніваецца ад тлумачальнага слоўніка?
43. Што такое антонімы? Якія неабходныя ўмовы ўзнікнення антаніміі?
44. Якія тыпы антонімаў бываюць?
45. Ці ўсе словы ў мове могуць уступаць ў антанімічныя сувязі?
46. Як уплывае на антанімію мнагазначнасць слова?
47. Як разумееце тэрмін “кантэкстуальны антонім”? Параўнайце яго з тэрмінам “кантэкстуальны сінонім”. Што іх збліжае і адрознівае?
48. Які стылістычны прыём называецца антытэзай?
49. Дайце вызначэнне аксюмарана як вобразнага сродку.
50. Успомніце загалоўкі мастацкіх твораў, у якіх ёсць антонімы.

## II. Аспекты вывучэння лексікі

### Асноўныя паняцці

**Дыялектнымі** (ад грэч. *dialektos* – гаворка) называюцца словы, уласцівыя адной тэрытарыяльна абмежаванай гаворцы ці дыялекту і не пашыраныя ў літаратурнай мове.

**Дыялектызмы** – дыялектныя словы, выкарыстаныя ў літаратурнай мове з мэтай стварэння мясцовага каларыту ці індывідуалізацыі мовы.

**Тэрміны** (ад лац. *terminus* – мяжа, граніца) словы або словазлучэнні, якія дакладна абазначаюць пэўныя паняцці навукі, тэхнікі, мастацтва, вытворчасці.

**Наменклатурныя назвы** (лац. *nomenclatura* – роспіс імён, пералік, спіс) – гэта назвы, якія выкарыстоўваюцца ў якой-небудзь галіне навукі, вытворчасці для абазначэння яе аб'ектаў.

**Прафесіяналізм** – гэта слова або выраз, характэрныя для людзей пэўных прафесій, распаўсюджаныя ў гутарковай мове або ўжытыя ў мастацкім творы.

**Стылістыка** (ад лац. *stylos* – завостраная палачка для пісьма) – раздзел мовазнаўства, які даследуе ўжыванне слоў, словазлучэнняў, сказаў паводле іх адпаведнасці зместу, мэце выказвання, а таксама сітуацыі (у вусным маўленні).

**Гістарызмы** (ад грэч. *historikos* – гістарычны) – гэта назвы тых прадметаў, з'яў, паняццяў, якія зніклі з сучаснай рэчаіснасці, "сталі гісторыяй".

**Архаізмы** (ад грэч. *archaios* – старадаўні, устарэлы) – гэта словы, якія з'яўляюцца ўстарэлымі назвамі тых прадметаў і паняццяў, што існуюць у сучаснай рэчаіснасці, але абазначаны новымі словамі.

**Неалагізмы** (ад грэч. *neos* – новы, *logos* – слова) – гэта новыя словы ці новыя прадметы, з'явы сучаснай рэчаіснасці і не страцілі адцення навізны.

**Аманімія** (ад грэч. *homos* – аднолькавы, onyma – імя) – поўнае гукавое супадзенне розных паводле значэння слоў, а самі словы называюцца **амонімамі**.

**Паронімы** (ад грэч. *para* – каля, побач, *onyma* – імя) словы адной часціны мовы, якія маюць аднолькавыя граматычныя прыметы і суадносяцца паміж сабой па структуры.

**Сінонімы** (ад грэч. *synonymos* – аднайменны) – словы пэўнай часціны мовы, якія абазначаюць тое самае паняцце, маюць аднолькавыя ці падобныя значэнні, але адрозніваюцца гучаннем, адценнямі значэнняў, эмацыянальна-экспрэсіўнай афарбоўкай, спалучальнасцю з іншымі словамі або стылістычным выкарыстаннем.

**Антонімы** (ад грэч. *anti* – супраць, *onyma* – імя) – словы адной часціны мовы, якія абазначаюць супрацьлеглыя паняцці.

## Заданні да практычных заняткаў

Заданне 1. *Вызначце, з якой мовы запазычаны словы. Назавіце іх фанетычныя і марфалагічныя асаблівасці, а таксама агульнае лексічнае значэнне.*

Айчына, кавадла, рыдлёўка, вяндліна, маёнтак, кабета, падарунак, амплуа, арышт, варта, фасон, атаман, кінжал, курган, танк, фільм, атава, адажыа, трыа, нефрыт, карозія, румпель, дэпо, кафе, каталог, гуманізм, дысертацыя, вестыбюль, графюра, курсіў, папірус.

Заданне 2. *Растлумачце, чым адрозніваюцца ад уласнабеларускіх слоў блізкія па значэнні іншамоўныя.*

Антракт – перапынак, афіша – аб'ява, басейн – вадаём, дыплом – пасведчанне, дыскусія – спрэчка, інцыдэнт – выпадак, мемуары – успаміны, мініяцюрны – маленькі, турыст – падарожнік, асістэнт – памочнік, іронія – насмешка, аналогія – падабенства.

Заданне 3. *Перакладзіце словы з рускай мовы на беларускую і вызначце асаблівасці асваення запазычаных слоў.*

Командир, командировка, президиум, подвиг, пальто, реликвия, демонстрация, приоритет, диета, телефон, семь, голубь, восемьдесят, степь,

дробь, киоск, осуществление, опровержение, единогласный, беззащитный, телевидение, студент, церемония, делегат, сердце, деликатес, эталон, декабрист, турне, кашне, директор, инженер, тема, эстетика.

Заданне 4. *Вызначце, якія з прыведзеных спрадвечнабеларускіх слоў з'яўляюцца агульнаславянскімі, усходнеславянскімі і ўласнабеларускімі.*

Галава, гром, дождж, конь, зуб, авёс, проса, зіма, лета, дом, млын, абрус, астрог, іржа, возера, авечка, сястра, дзень, два, сто, вы, варона, год, месяц, нядзеля, бацька, дзядзька, адзіннаццаць, араты, асілак, вайсковы, цемра, спёка, радасць, ехаць, стаяць, хітры, мудры, карзіна, адказаць, разлік, байка, дзейнік, хлеб, мёд, гара, поле, брат, цвёрды, ячмень, шапка, трава, дрэва, воўк, заяц, мяккі, кажух, рукавіцы.

Заданне 5. *Выпішыце са "Слоўніка сінонімаў і блізказначных слоў" М.К. Клышкі тры сінанімічныя рады, у якіх ёсць запазычаныя словы. Калі беларуская мова не поўнасцю асвоіла слова, у дужках адзначце яго фанетычныя або марфалагічныя асаблівасці.*

Заданне 6. *Прачытайце, як тлумачацца запазычаныя словы ў падручніку "Беларуская мова" для 4 класаў. Праверце, ці ведаеце вы значэнні ўсіх іншамоўных слоў, выкарыстаных у тлумачэнні тэмы і ў тэкстах практыкаванняў, прапанаваных для яе засваення. Акрэсліце значэнне кожнага запазычанага слова.*

Заданне 7. *Зрабіце лексічны аналіз падкрэсленых у сказе слоў.*

Шырокі <u>гасцінец</u> двума радамі <u>старых</u> бяроз <u>збягаў</u> з горкі роўнай сцежкай кудысьці на захад. (Я. Колас)

Заданне 8. *Да якога стылістычнага разраду лексікі адносяцца наступныя словы:*

Пазнанне, тэорыя, свядомасць, мараль, дабрачыннасць, эрудыцыя; прысутнічалі, слухалі, закон, адзначыць; бісектрыса, кааліцыя, інтэграл, кандэнсатар; каметарый, інтэрв'ю, аглядальнік, карэспандэнт; айчына, барацьба, ліміт, дэфіцыт, брацтва, свабода, патрыёт, калектыў; ваяка, здаравяка, вершаплёт, бубніць; ясназорны, пясняр, звонкаструнны, срэбразвонны, сінявокі, крынічанька, вятрыска, галованька; затрымацца, памыліцца, адпачываць.

Заданне 9. *Падбярыце да стылістычна-нейтральных слоў стылістычна афарбаваныя словы – сінонімы. Дакладнасць вызначэння стылістычнай прыналежнасці слова праверце па ТСБМ.*

Цемра, часам, аднолькавы, вышыня, журналіст, змяркацца, птушка, тлумачыць, сябраваць, аднолькавы, абшар, адважны, прыгожы.

Заданне 10. *Выпішыце з мастацкага твора дзесяць сказаў са стылістычна афарбаванымі словамі, укажыце іх стылістычную памету: гутарк., кніжн., уст., дыял. і г.д. Растлумачце стылістычную ролю гэтых слоў у кантэксце.*

Заданне 11. *Вызначце стыль тэксту і запішыце толькі тое слова (у пачатковай форме), якое не характэрна для дадзенага стылю.*

Мясцовасць скрозь была няроўная. Часам трапляліся высакаватыя ўзгоркі, невялікія ўзвышшы, і сялянскія загоны на іх то падымаліся ды апускаліся, то перарываліся пералескамі. Здавалася, нейкая казачная ткачыха зрабіла гэты маляўнічы дакор (М. Хведаровіч).

Заданне 12. *Складзіце лексіка-стылістычныя парадыгмы, каб у іх склад уваходзілі прыведзеныя словы. Колькі пазіцый можа быць у асобных парадыгмах і ад чаго гэта залежыць?*

Братва, вучыць, вяшчаць, гультай, неабсяжны, спаць, доблесны, хадзіць.

Заданне 13. *Выпішыце асобна словы агульнаўжывальныя і словы абмежаванага ўжывання.*

Аблуда, абстракцыянізм, аб'ядала, агент, аграрнік, адбухаць, аквеціцца, акопнік, аксаміт, аналогія, астрог, астра, баланс, балаўство, блакнот, бохан, брамнік, брук, брызент, бурачковы, буржуй, вакцына, валачобнік, верабіна, валэндацца, верасень, весялушка.

Заданне 14. *Параўнайце пары слоў. Вызначце, чым адрозніваюцца дыялектныя словы ад адпаведных паводле значэння літаратурных (гучаннем, асаблівасцямі формы ці словаўтварэння, асновамі, лексічным значэннем).*

Нясець – нясе, госень – восень, зіхаць – абглядаць, бульбяшнік – бульбоўнік, бусял – бутля (з вузкім горлам), дабрачы – добры, рукамы – рукамі, досюль – дасюль, ляскаўка – плотка, мост – падлога, пісацьму – буду пісаць, кеб – каб, казыў – казаў, спамінаецца – успамінаецца, вобуй – абутак, тамака – там, бацян – бусел, ладаваць – рыхтаваць, чайка – лодка, гавора – гаворыць, більзін – бензін, хрушчык – коржык.

Заданне 15. *Спачатку выпішыце сказы з лексічнымі дыялектызмамі, затым з семантычнымі, фанетычнымі, граматычнымі, словаўтваральнымі. Адкажыце, на якой падставе адносіцца той ці іншы дыялектызм да пэўнай групы.*

1. Корч ездзіў у мясцечко па дохтара (І. Мележ)
2. Калі ж зацвіце, зашуміць канюшына, ты ў цішы даглядацьмеш і сад, і дом (А. Куляшоў)
3. Зноў зіма паслала снежныя кілімы, зажурыла беллю паплавы, лугі (Я. Сіпакоў)
4. Нечага гаварыць аб тым, чаго ў жыцці нямашака (М. Лынькоў).
5. Плаваюць туманы па лядку калож (А. Званок).
6. Госця паставіла збанок, села насупраць, на столаку (М. Далідовіч).
7. Адоле мароз ударыў, укаваў усё (П. Місько).
8. Хтось з нашае вёскі знайшоў лагво воўчае (Б. Сачанка).
9. Дзе падзеліся людзі, і досі ніхто нічога пэўнага сказаць не можа (Б. Сачанка).
10. Такая была замёта, і снег, і вецер (Я. Колас).

Заданне 16. *Выпішыце са сказаў прафесіяналізмы і ахарактарызуйце іх паводле паходжання. Вызначце, у чым асаблівасць выкарыстання гэтых слоў.*

1. Ідзе Іван па вузкалейцы, думае, прыглядаецца да стыкаў рэек, да таго, каб не аслабіўся дзе кастыль. То ў адным, то ў другім месцы спыняецца, знімае з пляча брызентавую сумку, выцягвае лапай іржавы кастыль, дастае з сумкі новы, гахае молатам па кастылі (І. Капыловіч). 2. Шмат пісалі, дождж, як ты ідзеш: у аднаго – ступою, у другога – трухам, у трэцяга – алюрам нават (П. Глебка). 3. Але на той раз рыба чамусьці аб'явіла мне байкот: узяўся толькі адзін шчупачык-недаростак (І. Шахавец).

Заданне 17. *Растлумачце, як вы разумееце значэнні наступных лінгвістычных тэрмінаў.*

Фанетыка, фаналогія, гук, фанема, санорныя гукі, асіміляцыя, акамадацыя, дысімільяцыя, падаўжэнне зычных, чаргаванні гукаў, арфаэпія, арфаграфія, лексіка, лексікалогія.

Заданне 18. *Запішыце ў алфавітным парадку лінгвістычныя тэрміны, якія сустракаюцца ў школьным падручніку па беларускай мове для 3-га класа.*

Заданне 19. *Спішыце. Падкрэсліце жарганізмы і абазначце іх від. Ахарактарызуйце спосаб увядзення і функцыю гэтых слоў у тэксце.*

1. Ты – малайчына. Ты проста – малаток. (П. Місько).

2. У іх студэнцкім атрадзе былі дзяўчаты, хімічкі, як называлі іх, бо яны з хімфака (І. Капыловіч)
3. Зойка праваліла літаратуру і цяпер наводзіла даведкі, куды можна паспрабаваць яшчэ здаць дакументы (І. Жарнолек).
4. "Ты – добры чувак, я ведаў", – расчуліўся Квакула (П. Місько).
5. Гэтыя яшчэ не рашылі, куды пайсці, хоць выбар быў і не вельмі багаты: прашвырон, ракавіна і ракета. Прашвырон на мясцовым жаргоне звалі магчымасць свабодна гуляць... ракавінай называлі танцпляцоўку, ракетай – кінатэатр (М. Стральцоў).

Заданне 20. *Карыстаючыся пяцітомным ТСБМ, вызначце семантыку слоў. Укажыце, да якога разраду лексікі абмежаванага ўжывання яны належаць.*

Фармант, матрыца, мура, муляж, табло, фраер, філон, араторыя, дуэт, лакатар, мадыфікацыя, міграцыя, дэрывацыя, тэарэма, флексія, румпель.

Заданне 21. *Спішыце сказы і падкрэсліце словы пасіўнай лексікі. Вызначце, да якой групы ўстарэлых слоў яны адносяцца.*

1. На пачатку мая ў Быхаў прымчаў на ўзмыленым кані ганец (У. Караткевіч). 2. Нешта чалавек каля пяцідзесяці ўмудрылася спусціцца з муроў і ўсё ж уцячы за раццю (У. Караткевіч). 3. Я цалую зяніцы твае, каб мяне не забыла ніколі (У. Караткевіч). 4. Паехаў Сцёпка вучыцца, кончыліся летнія вакацыі (Я. Колас). 6. Як і ўсе, браў князь у рукі адмысловы тупы меч, страляў з лука, кідаў у дубовага, глыбока ўкапанага ў зямлю балвана цяжкую дзіду (У. Караткевіч). 7. Абвестка на сцяне дома гаварыла, што будзе сход (К.Чорны). 8. Пры шляху шырокім, дзе стаіць камора, я на свет радзіўся пад глухі шум бору (Я. Колас). 9. Віця здаў іспыты за чацвёрты клас (А. Чорны). 10. Склікаў на сеч сваіх сыноў сярод балот узняты горад (У. Караткевіч).

Заданне 22. *Вызначце тып архаізмаў, падбярыце да іх сінонімы актыўнага ўжывання. Пры цяжкасцях у вытлумачэнні семантыкі слоў звяртайцеся да ТСБМ.*

Гарбата, прасвета, філозаф, атрамант, ядваб, лёкай, дэпеша, дзейца, лятун, чало, вакацыі, дарэктар, філёзофія, кляса, сымболь, матацыклет, бабыль, чада, персі, абставы, гімнасія, дружына, двор, тлумач, скрыжалі, кардон, аэраплан, цытрына, гарнітур, прыродніцкі, загарак, арцель, перст, куранты.

Заданне 23. *Вызначце семантычныя групы прыведзеных гістарызмаў.*

Воласць, земства, уезд, гміна, ваяводства, баярын, магнат, феадал, фабрыкант, прыгонны, жандар, сотнік, рэкрут, стралец, ротмістр; лук, кальчуга, калчан, меч, мушкет; грыўня, грош, залатнік, срэбранік, талер; асьміна, гарнец, аршын, вярста, сажань, дзесяціна; саха, жорны, каганец; жупан, лапсярдак, бравэрка, світка, каптур, армяк.

**Пытанні і заданні для самакантролю**

1. Назавіце асноўныя шляхі папаўнення і развіцця лексічнага складу беларускай мовы.
2. Якія пласты лексікі паводле паходжання вылучаюцца ў слоўніку беларускай мовы?
3. Якая лексіка складае аснову слоўніка сучаснай беларускай мовы?
4. Дайце вызначэнне спрадвечнабеларускай лексікі. На якія падгрупы яна падзяляецца?

5. Што ўяўляе сабой лексіка агульнаславянскага паходжання? Укажыце яе семантычныя групы.
6. Якая лексіка называецца агульнаўсходнеславянскай?
7. Якія словы адносяцца да ўласнабеларускай лексікі? З якім гістарычным перыядам звязана яе фарміраванне?
8. Чым выклікаецца неабходнасць у лексічных запазычаннях з іншых моў?
9. Што такое варварызмы? Экзатызмы? Якія прычыны абумоўліваюць іх запазычанне? Ці маюць гэтыя словы свае адпаведнікі ў нашай мове?
10. На якія групы і падгрупы падзяляецца запазычаная лексіка?
11. Укажыце фанетыка-марфалагічныя адметнасці запазычанняў з неславянскіх моў.
12. Назавіце адметнасці лексікі, запазычанай з польскай мовы.
13. Раскажыце пра запазычанні з рускай мовы.
14. Што такое ўкраінізмы?
15. Як асвойваюцца іншамоўныя словы?
16. Якія працэсы характарызуюць развіццё слоўнікавага складу беларускай мовы?
17. На якія стылістычныя разрады падзяляецца лексіка беларускай мовы?
18. Якая лексіка называецца стылістычна нейтральнай, а якая – стылістычна афарбаванай?
19. Што ўяўляюць сабой словы з эмацыянальна-экспрэсіўнай афарбоўкай?
20. Якія працэсы характарызуюць развіццё слоўнікавага складу беларускай мовы?
21. Ці ўваходзяць вульгарныя словы ў слоўнікавы склад беларускай мовы і якое месца яны займаюць у агульнай сістэме лексікі?
22. У якіх стылях звычайна выкарыстоўваюцца словы, якія адносяцца да кніжнай лексікі? Да размоўнай лексікі?
23. Якія з памет у тлумачальным слоўніку паказваюць на сферу ўжывання, а якія адзначаюць у слове эмацыянальна-экспрэсіўную афарбоўку?
24. Што абазначае адсутнасць у слове стылістычнай паметы?
25. Чым аб'ядноўваюцца і чым адрозніваюцца паміж сабой словы розных разрадаў кніжнай і размоўнай лексікі?
26. Раскрыйце змест паняцця "стылістычная неаднароднасць". Укажыце на памылкі, звязаныя з ужываннем рознастылёвай лексікі.
27. Як падзяляецца лексіка беларускай мовы паводле сферы яе выкарыстання? На чым заснаваны такі падзел?
28. Якія групы слоў уваходзяць у лексіку абмежаванага ўжывання?
29. Якія словы адносяцца да агульнаўжывальнай лексікі? Ці ў аднолькавай меры выкарыстоўваюцца ў моўнай практыцы ўсімі носьбітамі мовы агульнаўжывальныя словы?
30. Якія словы называюцца дыялектнымі? Чым адрозніваюцца дыялектныя словы ад агульнаўжывальных?
31. Якія віды дыялектызмаў адрозніваюцца ў лексіцы беларускай мовы? Дайце вызначэнне кожнаму віду.
32. Якія дыялектызмы ўключаюцца ў тлумачальныя слоўнікі са спецыяльнай паметай?
33. Якія словы адносяцца да спецыяльнай лексікі? Якое месца займае такая лексіка ў агульным слоўнікавым складзе?
34. На якія групы падзяляецца спецыяльная лексіка ў залежнасці ад яе ролі і функцыі ў мове?

35. Чым збліжаюцца і адрозніваюцца паміж сабой гэтыя дзве групы спецыяльнай лексікі?
36. Чым тлумачыцца наяўнасць прафесіяналізмаў у мове?
37. Якая лексіка называецца жаргоннай?
38. Чаму жарганізмы знаходзяцца па-за межамі літаратурнай мовы?
39. Што ўяўляе сабой арго як асобная разнавіднасць жаргону?
40. На якія групы падзяляецца лексіка беларуская мовы ў залежнасці ад яе ўжывання?
41. Чым абумоўліваецца паяўленне адных і выхад з ужытку другіх слоў? Ці адразу знікаюць словы і з'яўляюцца на іх месцы новыя?
42. Што разумеецца пад актыўным слоўнікавым складам мовы? Якія асноўныя лексічныя групы ўваходзяць у склад актыўнай лексікі?
43. Што разумеецца пад пасіўным слоўнікавым складам? Якія словы адносяцца да пасіўнай лексікі?
44. Чым адрозніваюцца паміж сабой гістарызмы і архаізмы?
45. Назавіце асноўныя семантычныя групы гістарызмаў.
46. Якія віды архаізмаў вылучаюцца ў сучаснай беларускай мове? Ахарактарызуйце іх.
47. Якія прычыны абумоўліваюць узнікненне архаізмаў?
48. Якія словы называюцца неалагізмамі? Як ўзнікаюць неалагізмы?
49. Чым адрозніваюцца агульнамоўныя і індывідуальна-аўтарскія неалагізмы?
50. Якую мастацкую ролю адыгрываюць аўтарскія наватворы?

## Спіс літаратуры

### Асноўная літаратура


1. Беларуская мова: Фанетыка. Арфаэпія. Графіка. Арфаграфія. Лексікалогія. Лексікаграфія. Фразеалогія. Марфемная будова слова. Словаўтварэнне. Марфалогія. Сінтаксіс. Пунктуацыя. Вучэбн. дапам. для педагагічных ВНУ / Пад агул. рэд. Л.М. Грыгор'евай. – Мінск: Выш. шк., 1994. – 367 с.

2. Беларуская мова. У 2 ч.: Ч.2: Падручнік для навучэнцаў педвучылішчаў і каледжаў / Пад агул. рэд. М.Г. Грыгор'евай. – 2-е выд., перапрац. і дап. – Мінск: Выш. шк., 1998 – 222 с.

3. Беларуская мова: Энцыклапедыя / Беларус. Энцыкл.; Пад рэд. А.Я. Міхневіча; Рэдкал.: Б.І. Сачанка (гал. рэд.) і інш.. – Мінск: БелЭн, 1994. – 654 с.

4. Грыгор'ева Л.М. Сучасная беларуская мова: Фанетыка. Арфаэпія. Графіка. Арфаграфія. Лексікалогія. Лексікаграфія. Фразеалогія. Марфеміка. Словаўтварэнне. Марфалогія. Сінтаксіс. Пунктуацыя: Зборнік практыкаванняў: вучэбны дапаможнік / Л.М. Грыгор'ева, Г.Ф. Андарала. – Мінск: Выш. шк., 2010. – 368 с.

5. Красней, В.П. Лексіка і фразеалогія беларускай мовы / В.П. Красней. – Мінск: Нар. асвета, 1982. – 143с.

6. Красней, В.П., Лазоўскі, У.М., Шчарбакова, І.М. Сучасная беларуская мова: Лексікалогія. Фразеалогія / В.П. Красней, У.М. Лазоўскі, І.М. Шчарбакова. – Мінск: Універсітэцкае, 1984. – 175с.

7. Лексікалогія сучаснай беларускай літаратурнай мовы / АН Беларусі, Ін-т мовазнаўства ім. Я. Коласа; А.Я. Баханькоў, В.П. Лемцюгова, Г.Ф. Вештарт і інш.; Пад рэд. А.Я. Баханькова. – Мн.: Навука і тэхніка, 1994. – 463 с.

8. Сямашка, Л.І. Беларуская мова: Вучэбны дапаможнік / Л.І. Сямашка. – Мінск: Сучаснае слова, 1999. – 224 с.

9. Сучасная беларуская мова: Фанетыка. Фаналогія. Арфаэпія. Арфаграфія. Лексікалогія. Фразеалогія. – Мінск: Выш. шк., 1998. – 334 с.

10. Сучасная беларуская мова: Фанетыка. Арфаэпія. Графіка. Арфаграфія. Лексікалогія. Лексікаграфія. Фразеалогія. Марфеміка. Словаўтварэнне. Марфалогія. Сінтаксіс. Пунктуацыя: Вучэбны дапаможнік для студэнтаў спецыяльнасці “Пачатковая адукацыя” / Пад агульн. рэд. Л.М. Грыгор’евай. – Мінск: Выш. шк., 2010. – 621 с.

**Дадатковая**

1. Адамовіч, Я.М. Беларуская мова: Зборнік практыкаванняў: вучэб. дапам. / Я.М. Адамовіч, М.І. Касцян, В.У. Ляпёшкін. – 2-е выд., перапрц. – Мінск: Выш.шк.,1993 – 270 с.

2. Кечык, С.Я. Моўны разбор у ВНУ і ў школе / С.Я. Кечык, В.І. Рагаўцоў. – Мінск: Выш. шк., 1988 – 127 с.

3. Лепешаў, І.Я. Асновы культуры мовы і стылістыкі: Практыкум: Вучэб. дапам. / І.Я. Лепешаў. – Мінск: “Універсітэцкае”, 1989. – 207 с.

4. Плотнікаў, Б.А. Беларуская мова: Лінгвістычны кампендыум / Б.А. Плотнікаў, Л.А. Антанюк. – Мінск: Інтэрпрэссервіс, 2003. – 672 с.

5. Цікоцкі, М.Я. Стылістыка беларускай мовы: Вучэб. дапам. для фак. журналістыкі / М.Я. Цікоцкі. – Мінск: Універсітэцкае, 1995. – 294 с.

**Слоўнікі**

1. Арашонкава, Г.У. Кароткі слоўнік беларускай мовы. Правапіс. Вымаўленне. Націск. Словазмяненне. Словаўтварэнне / Г.У. Арашонкава, В.П. Лемцюгова. – Мінск: Выш. шк., 1994. – 210 с.

2. Беларуская энцыклапедыя: У 18 т. / Беларуская Энцыклапедыя; рэдкал.: Г.П. Пашкоў (гал. рэд.) [і інш.]. – Мінск : БелЭн, 1996–2004. – 18 т.

3. Беларускі арфаграфічны слоўнік / Пад рэд. А.А. Лукашанца. – 2-е выд., выпр. – Мінск: Беларус. навука, 2010. – 695 с.

4. Булыка, А.М. Слоўнік іншамоўных слоў: У 2 т. / А.М. Булыка. – Мінск: Бел. Энцыкл., 1999. – 2 т.

5. Граматычны слоўнік дзеяслова [укладальнікі: В. П. Русак і інш.; навуковыя рэдактары: А.І. Падлужны, В.П. Русак] / Нацыянальная акадэмія навук Беларусі, Інстытут мовазнаўства імя Я. Коласа. – Мінск: Беларуская навука, 2007. – 1252 с.

6. Мысліцелі і асветнікі Беларусі: X-XIX ст.: Энцыкл. давед. / Беларус. Энцыкл.; [Склад. Г.А. Маслыка; Маст. Э.Э. Жакевіч]. – Мінск: БелЭн, 1995. – 672 с.

7. Руска-беларускі слоўнік: У 3 т: Каля 110000 слоў / АН Беларусі, Ін-т мовазнаўства імя Я. Коласа; прадмова Н.Н. Крапіўка. – Мінск: Беларус. Энцыкл., 1995. – 3 т.

8. Слоўнік беларускай мовы: арфаграфія, арфаэпія, акцэнтуацыя, словазмяненне / Г.У. Арашонкава і інш.; пад рэд. М.В. Бірылы; АН БССР, Інстытут мовазнаўства імя Я. Коласа. – Мінск: БеЭн, 1987. – 902 с.

9. Сцяцко, П.У., Гуліцкі, М.Ф., Антанюк, Л.А. Слоўнік лінгвістычных тэрмінаў / П.У. цяцкр, М.Ф. Гуліцкі, Л.А. Антанюк / Пад рэд. М.В. Бірылы і П.У. Сцяцко. – Мінск: выш. шк., 1990. – 222 с.

10. Тлумачальны слоўнік беларускай літаратурнай мовы: больш за 65000 слоў / Нацыянальная акадэмія навук Беларусі, Інстытут мовазнаўства імя Я.

Коласа; [І.М. Бунчук і інш.]; пад рэд. М.Р. Судніка, М.Н. Крыўко. – Мінск: БелЭн, 2005. – 783 с.

11. Тлумачальны слоўнік беларускай мовы / АН БССР, Інстытут мовазнаўства імя Я. Коласа; пад агул. рэд. К.К. Атраховіча (К. Крапівы): У 5 т. – Мінск: БелЭн, 1977–1984. – 5 т.

## ЛЕКСІКАГРАФІЯ

Пасля вывучэння раздзела “Лексікаграфія” студэнт павінен

**ведаць:**
- азначэнне лексікаграфіі як асобнай галіны моваэнаўства;
- гістарычныя вытокі і тэндэнцыі развіцця беларускай лексікаграфіі;
- будову слоўнікавых артыкулаў;
- нормы сучаснай беларускай літаратурнай мовы;
- асноўныя тэарэтычныя работы па вывучаемым раздзеле курса “Беларуская мова”.

**умець:**
- характарызаваць лінгвістычныя і энцыклапедычныя слоўнікі розных тыпаў;
- практычна працаваць са слоўнікамі;
- разумець ролю слоўніка ў развіцці вуснага звязнага маўлення малодшых школьнікаў і прымяняць веды ў дзейнасці настаўніка пачатковых класаў.

### Асноўныя паняцці:

**Лексікаграфія** (ад грэч. *lexikos* – які адносіцца да слова і *grapho* – пішу) – гэта: 1) тэорыя і практыка складання слоўнікаў; 2) сукупнасць слоўнікаў пэўнай мовы, пэўнага тыпу, пэўнага разраду лексікі і г.д.

**Слоўнік** – кніга, рукапіс ці электронная праграма, у якіх зафіксаваны ў пэўным парадку (алфавітным, гнездавым, тэматычным, храналагічным, лічбавым або інш.) словы ці іншыя адзінкі мовы з адпаведнымі звесткамі пра іх у выглядзе тлумачэнняў, перакладаў на іншую мову, ілюстрацый з розных жанраў літаратуры і г.д.

**Слоўнікавы артыкул** – рэстравае слова (загаловачнае) разам з усімі звесткамі пра яго.

**Энцыклапедычныя слоўнікі** (ад грэч. *enkyklopaideia* – кола ведаў) гэта даведнікі, у якіх у сціслай форме пададзены асноўныя навуковыя звесткі пра з’явы і прадметы рэчаіснасці, пра розныя галіны навукі, тэхнікі, літаратуры, мастацтва і інш.

**Лінгвістычныя слоўнікі** апісваюць словы мовы, іх значэнне, ужыванне, паходжанне, марфемную будову, вымаўленне, напісанне.

### Заданні да практычныя заняткаў

Заданне 1. *Супастаўце слоўнікавыя артыкулы “Беларускай Савецкай Энцыклапедыя” (БелСЭ) і “Тлумачальнага слоўніка беларускай мовы” (ТСБМ). Укажыце на адрозненні энцыклапедычных артыкулаў ад лінгвістычных паводле іх будовы і зместу.*

Заданне 2. *Пракаменціруйце структуру трох-чатырох артыкулаў са “Слоўніка беларускай мовы” І. Насовіча (тлумачэнне слова, граматычныя і стылістычныя паметы, ілюстрацыйны матэрыял, адсылкі і інш.). Якое значэнне слоўніка для сучаснай лексікаграфіі?*

Заданне 3. *З "Тлумачальнага слоўніка беларускай мовы" АН БССР і "Тлумачальнага слоўніка беларускай мовы" А.Я. Баханькова, І.М. Гайдукевіча, П.П. Шубы выпішыце артыкулы* ***абярэмак, адліга, бондар, прыпасы.*** *Растлумачце розніцу ў структуры артыкулаў, у тлумачэнні значэнняў слова. Параўнайце граматычныя і стылістычныя паметы ў гэтых даведніках.*

Заданне 4. *З "Дыялектнага слоўніка" Ф.М. Янкоўскага (вып. 2) выпішыце пяць-шэсць слоўнікавых артыкулаў. Вызначце, якія способы тлумачэння тут выкарыстаны.*

Заданне 5. *Прачытайце ў "Слоўніку сінонімаў і блізказначных слоў" М. Клышкі старонкі, дзе гаворыцца, як ім карыстацца. Акрэсліце спецыфіку гэтага даведніка ў параўнанні з іншымі.*

Заданне 6. *Прааналізуйце змест і будову слоўнікавых артыкулаў (па выбару) з "Этымалагічнага слоўніка беларускай мовы". Звярніце ўвагу на меркаванні вучоных, адпаведнікі з іншых моў, адсылкі і інш.*

Заданне 7. *Параўнайце слоўнікавыя артыкулы, звярніце ўвагу, як тлумачыцца адно і тое ж слова ў розных даведніках.*

1. Адвага, смеласць, рашучасць, бясстрашша.
2. Маланка, бліскавіца, зарніца; бліскаўка (абл.).

Заданне 8. *Карыстаючыся "Слоўнікам паронімаў беларускай мовы" С.М. Грабчыкава (Мінск, 1994), вызначце розніцу паміж наступнымі словамі:*

Адзінкавы – адзінокі – адзіночны – адзіны, асабісты – асабовы – асаблівы, эфектыўны – эфектыўны, важкасць – важнасць, вымысел – замысел, гімназісцкі – гімназічны, дысцыплінаваны – дысцыплінарны, запазычанасць – запазычанне – запазычванне, прэтэндэнт – прэцэдэнт, факультатыўны – факультэцкі, цікавы – цікаўны, чытальнік – чытач, юнацкасць – юнацтва.

Заданне 9. *Перакладзіце тэкст на беларускую мову. Зрабіце лексічны аналіз выдзеленых слоў. Пры перакладзе карыстайцеся "Руска-беларускім слоўнікам" у 3-х тамах (т. 1, Мінск, 1993).*

Человеку надо знать свои корни. Тогда и воздух, которым он дышит, будет ***целебен*** и вкусен, и земля, на которой стоят его ноги, будет дороже, и все, что будет выходить из его рук, будет овеяно мастерством его предшественников, красотой, накопленной в веках.

... К двадцати годам человек обязательно задается вопросами: кто я? откуда я? зачем я? чем могу отца превзойти? что я прибавлю своего к жизни?

Это ***неизбежные*** вопросы и для одного человека, и для поколений людей. И чем скорее придет человеку ***верный*** ответ, тем ***прочнее*** он будет чувствовать себя на земле.

*(В. Песков)*

Заданне 10. *На аснове якога правапісу складзены "Беларускі арфаграфічны слоўнік" (Мінск, 2010). Якія змены ўнесены ў напісанні некаторых слоў (назавіце з іх асноўныя).*

**Пытанні і заданні для самакантролю**

1. Што такое лексікаграфія? Ахарактарызуйце прадмет і задачы вывучэння лексікаграфіі.
2. На якія тыпы падзяляюцца слоўнікі ў залежнасці ад навуковых задач і іх практычнага прызначэння?
3. Чым адрозніваюцца лінгвістычныя слоўнікі ад энцыклапедычных?

4. Чым адрозніваюцца паміж сабой універсальныя і галіновыя энцыклапедычныя слоўнікі?

5. Як падзяляюцца лінгвістычныя слоўнікі паводле мэт і задач іх стварэння, структуры слоўнікавых артыкулаў?

6. Якія лінгвістычныя слоўнікі называюцца адмоўнымі? Двух- ці шматмоўнымі?

7. Дайце кароткую характарыстыку перакладных слоўнікаў.

8. Растлумачце розніцу ў структуры артыкулаў у РБС і БРС.

9. Раскажыце аб прызначэнні тлумачальных слоўнікаў, ахарактарызуйце найважнейшыя з іх.

10. Раскажыце пра змест і будову слоўнікавых артыкулаў у ТСБМ.

11. Якія існуюць тыпы дыялектных слоўнікаў?

12. Ахарактарызуйце дыферэнцыяльныя дыялектныя слоўнікі, поўныя і адносна поўныя.

13. Прааналізуйце змест і будову слоўнікавых артыкулаў з гістарычнага і этымалагічнага слоўнікаў.

14. Дайце кароткую характарыстыку марфемных, арфаграфічных, частотных, паранімічных, анамастычных, тэрміналагічных, сінанімічных, антанімічных слоўнікаў, слоўнікаў мовы пісьменніка.

15. Прааналізуйце будову слоўнікавага артыкула з “Беларускага арфаграфічнага слоўніка” (Мінск, 2010).

## Спіс літаратуры

### Асноўная літаратура

1. Беларуская мова: Фанетыка. Арфаэпія. Графіка. Арфаграфія. Лексікалогія. Лексікаграфія. Фразеалогія. Марфемная будова слова. Словаўтварэнне. Марфалогія. Сінтаксіс. Пунктуацыя. Вучэбн. дапам. для педагагічных ВНУ / Пад агул. рэд. Л.М. Грыгор’евай. – Мінск: Выш. шк., 1994. – 367 с.

2. Беларуская мова. У 2 ч.: Ч.2: Падручнік для навучэнцаў педвучылішчаў і каледжаў / Пад агул. рэд. М.Г. Грыгор’евай. – 2-е выд., перапрац. і дап. – Мінск: Выш. шк., 1998 – 222 с.

3. Беларуская мова: Энцыклапедыя / Беларус. Энцыкл.; Пад рэд. А.Я. Міхневіча; Рэдкал.: Б.І. Сачанка (гал. рэд.) і інш. – Мн.: БелЭн, 1994. – 654 с.

4. Красней, В.П. Лексіка і фразеалогія беларускай мовы / В.П. Красней. – Мінск: Нар. асвета, 1982. – 143с.

5. Красней, В.П., Лазоўскі, У.М., Шчарбакова, І.М. Сучасная беларуская мова: Лексікалогія. Фразеалогія / В.П. Красней, У.М. Лазоўскі, І.М. Шчарбакова. – Мінск: Універсітэцкае, 1984. – 175с.

6. Лексікалогія сучаснай беларускай літаратурнай мовы / АН Беларусі, Ін-т мовазнаўства ім. Я. Коласа; А.Я. Баханькоў, В.П. Лемцюгова, Г.Ф. Вештарт і інш.; Пад рэд. А.Я. Баханькова. – Мінск: Навука і тэхніка, 1994. – 463 с.

7. Сямашка, Л. І. Беларуская мова: Вучэбны дапаможнік / Л.І. Сямашка. – Мінск: Сучаснае слова, 1999. – 224 с.

8. Сучасная беларуская мова: Фанетыка. Фаналогія. Арфаэпія. Арфаграфія. Лексікалогія. Фразеалогія. – Мінск: Выш. шк., 1998 – 334 с.

### Дадатковая

1. Адамовіч, Я.М. Беларуская мова: Зборнік практыкаванняў: вучэб. дапам. / Я.М. Адамовіч, М.І. Касцян, В.У. Ляпёшкін. – 2-е выд., перапрац. – Мінск: Выш. шк., 1993 – 270 с.

2. Кечык, С.Я. Моўны разбор у ВНУ і ў школе / С.Я. Кечык, В.І. Рагаўцоў. – Мінск: Выш. шк., 1988 – 127 с.

3. Лепешаў, І.Я. Асновы культуры мовы і стылістыкі: Практыкум: Вучэб. дапам. / І.Я. Лепешаў. – Мінск: “Універсітэцкае”, 1989. – 207 с.

4. Плотнікаў, Б.А. Беларуская мова: Лінгвістычны кампендыум / Б.А. Плотнікаў, Л.А. Антанюк. – Мінск: Інтэрпрэссервіс, 2003. – 672 с.

5. Цікоцкі, М.Я. Стылістыка беларускай мовы: Вучэб. дапам. для фак. журналістыкі / М.Я. Цікоцкі. – Мінск: Універсітэцкае, 1995. – 294 с.

## Слоўнікі

1. Арашонкава, Г.У. Кароткі слоўнік беларускай мовы. Правапіс. Вымаўленне. Націск. Словазмяненне. Словаўтварэнне / Г.У. Арашонкава, В.П. Лемцюгова. – Мінск: Выш. шк., 1994. – 210 с.

2. Беларуская энцыклапедыя: У 18 т. / Беларуская Энцыклапедыя; рэдкал.: Г.П. Пашкоў (гал. рэд.) [і інш.]. – Мінск : БелЭн, 1996–2004. – 18 т.

3. Беларускі арфаграфічны слоўнік / Пад рэд. А.А. Лукашанца. – 2-е выд., выпр. – Мінск: Беларус. навука, 2010. – 695 с.

4. Булыка, А.М. Слоўнік іншамоўных слоў: У 2 т. / А.М. Булыка. – Мінск: Бел. Энцыкл., 1999. – 2 т.

5. Граматычны слоўнік дзеяслова [укладальнікі: В.П. Русак і інш.; навуковыя рэдактары: А.І. Падлужны, В.П. Русак] / Нацыянальная акадэмія навук Беларусі, Інстытут мовазнаўства імя Я. Коласа. – Мінск: Беларуская навука, 2007. – 1252 с.

6. Мысліцелі і асветнікі Беларусі: X-XIX ст.: Энцыкл. давед. / Беларус. Энцыкл.; [Склад. Г.А. Маслыка; Маст. Э.Э. Жакевіч]. – Мінск: БелЭн, 1995. – 672 с.

7. Руска-беларускі слоўнік: У 3 т: Каля 110000 слоў / АН Беларусі, Ін-т мовазнаўства імя Я. Коласа; прадмова Н.Н. Крапіўка. – Мінск: Беларус. Энцыкл., 1995. – 3 т.

8. Слоўнік беларускай мовы: арфаграфія, арфаэпія, акцэнтуацыя, словазмяненне / Г.У. Арашонкава і інш.; пад рэд. М.В. Бірылы; АН БССР, Інстытут мовазнаўства імя Я. Коласа. – Мінск: БеЭн, 1987. – 902 с.

9. Сцяцко, П.У., Гуліцкі, М.Ф., Антанюк, Л.А. Слоўнік лінгвістычных тэрмінаў / П.У. цяцкр, М.Ф. Гуліцкі, Л.А. Антанюк / Пад рэд. М.В. Бірылы і П.У. Сцяцко. – Мінск: Выш. шк., 1990. – 222 с.

10. Тлумачальны слоўнік беларускай літаратурнай мовы: больш за 65000 слоў / Нацыянальная акадэмія навук Беларусі, Інстытут мовазнаўства імя Я. Коласа; [І.М. Бунчук і інш.]; пад рэд. М.Р. Судніка, М.Н. Крыўко. – Мінск: БелЭн, 2005. – 783 с.

11. Тлумачальны слоўнік беларускай мовы / АН БССР, Інстытут мовазнаўства імя Я. Коласа; пад агул. рэд. К.К. Атраховіча (К. Крапівы): У 5 т. – Мінск: БелЭн, 1977–1984. – 5 т.

## ФРАЗЕАЛОГІЯ

Пасля вывучэння раздзела “Фразеалогія” студэнт павінен

**ведаць**:
- сутнасць паняцця ‘фразеалагізм’, ‘фразеалагічнае значэнне і яго кампаненты’, ‘стылістычнае значэнне’;
- адрозненне паміж фразеалагічнымі адзінствамі і зрашчэннямі;
- семантычную, марфалагічную, сінтаксічную, стылістычную класіфікацыю фразеалагізмаў;
- утварэнне і паходжанне фразеалагічных адзінак.

**умець**:
- вызначаць сэнс фразеалагізма;
- вызначаць тып фразеалагізма па семантычнай злітнаці кампанентаў, паводле паходжання, паводле экспрэсіўна-стылістычнай афарбоўкі, па структуры, па спалучальнасці са словамі свабоднага ўжывання, па суадноснасці з часцінамі мовы;
- умець вызначаць сінтаксічную ролю фразеалагізма ў кантэксце.

### Асноўныя паняцці:

**Фразеалогія** (ад грэч. phrasis – выраз, моўны зварот і logos – вучэнне) – раздзел мовазнаўства, які вывучае семантычныя, граматычныя і стылістычныя асаблівасці фразеалагізмаў.

**Фразеалагізм** – гэта ўстойлівая, узнаўляльная, не менш як двухкампанентная моўная адзінка, якая спалучаецца са словамі свабоднага ўжывання і мае цэласнае значэнне, не роўнае суме значэнняў яе кампанентаў (калі іх разглядаць на ўзроўні слоў).

**Фразеалагічныя адзінствы** – матываваныя фразеалагізмы з жывой унутранай формай, якія ўзнікаюць у выніку пераасэнсавання свабодных словазлучэнняў.

**Фразеалагічныя зрашчэнні** – гэта семантычна непадзельныя, нематываваныя, бязвобразныя фразеалагізмы, якія патрабуюць этымалагічнага аналізу, высвятлення матываў іх узнікнення.

**Варыянтнасць фразеалагізмаў** – здольнасць аднаго і таго ж фразеалагізма выступаць у дзвюх ці болей разнавіднасцях, узаемазамяняльных у любым кантэксце.

**Мнагазначныя фразеалагізмы –** фразелагізмы, якія маюць два і больш значэнняў.

**Фразеалагічныя антонімы** – выразы з супрацьлеглым значэннем.

**Фразеалагічныя амонімы** – выразы, якія аднолькава гучаць, але не маюць нічога агульнага ў сваім значэнні.

**Фразеалагічныя сінонімы** – выразы, якія абазначаюць адно і тое ж паняцце, маюць тоеснае ці гранічнае блізкае значэнне, належаць да аднаго семантыка-граматычнага тыпу, але адрозніваюцца адзін ад другога адценнямі значэння, стылістычнай афарбоўкай і іншымі адметнымі адзнакамі.

### Заданні да практычных заняткаў

Заданне 1. *Прачытайце, знайдзіце фразеалагізмы, растлумачце іх сэнс.*

1. Хлапчук той нічым асаблівым не кідаўся ў вочы (І. Мележ). 2. У гульні сама рэй водзіць [Бандароўна], весела міргае, задзіўляе ўсіх чыста, як зара якая (Я. Купала). 3. – Яму то што! – рэзка кажа Задарожны. – Яму абы загадаць. А мы тут свае галавы паложым (В. Быкаў). 4. Гэтак, пакі сэрца чуе, што не час у шапку спаць, грайце, песні, хай красуе наш загон і сенажаць! (Я. Купала) 5. «Дзе наша, брат, не прападае! – Міхал гаворку зачынае: – Ці ж толькі свету, што ў аконцы? Або так міла тут бясконца? І там мы будзем жыць таксама; няма ўжо горшай, як тут яма. А сенакос тут дзе? за светам! А там блізютка, каля дома – Парэчча добра мне знаёма!» (Я. Купала).

Заданне 2. *Выпішыце са сказаў фразеалагізмы, растлумачце іх значэнне. Ахарактарызуйце фразеалагізмы паводле семантычнай злітнасці кампанентаў і структуры, вызначце іх сінтаксічную ролю.*

1. А рукі ты, відаць, дарэмна апусціў. Ці ж ужо і ратунку няма? (М.М.) 2. Я цябе прашу, хоць гады ў рады прысніся (Р.Б.). 3. Не трэба вешаць галавы! Ваенная служба ўмацоўвае чалавека (М.Л.). 4. Пад агульны рогат гледачоў загадчык гаспадарчай часткі палічыў за лепшае даць лататы ад Сёмкі (М.Л.). 5. Дакладчык не хацеў браць быка за рогі. Ён гаварыў доўга і мудрагеліста (Б.С.). 6. Дзед Талпаш і Мартын Рыль маўчаць, не спускаюць вока з незнаёмага чалавека (Я. Колас). 7. Піліпчыка і след прастыў, адразу знік, як яго і не было. 8. Паглядзі во… як піць даць Зося апынецца ў Берагоў (Ц.Г.). 9. У ідэале трэба імкнуцца да таго, каб кожнаму правілу даць, як кажуць чыгуначнікі, зялёную вуліцу (М.Р.).

Заданне 3. *Складзіце сказы з наступнымі фразеалагізмамі.*

1. Гады ў рады, да трох не гавары, на сёмым небе, на горкі яблык, вока не запарушыць, і след прастыў, сем пятніц на тыдні, дамоклаў меч, залаты фонд, біць лынды, сесці макам, даць дыхту, на свае вочы.

Заданне 4. *Растлумачце значэнне фразеалагізмаў і ахарактарызуйце іх паводле суаднеснасці з часцінамі мовы.*

Абы з рук, як рукой падаць, як мыш на крупы, абое рабое, ветрам падшыты, горкі хлеб, голас у голас, на адзін капыл, душа ў душу, ламаць камедыю, сухоты кішэньковыя, век вяком, нешта нейкае, аж пяткі блішчаць, даць маху, зямля ненаедная, аж пыл курыць, вось табе і на!, на адзін капыл.

Заданне 5. *Выпішыце са сказаў фразеалагізмы і размяркуйце іх па структурна-граматычных тыпах.*

1. Ну, пэўна ж, следам за дзедам – яно куды спакайней (Я.Б.). 2. Пачаўся быў нават і абмен пад гарачую руку, а потым справа з ім паступова аціхла (Я.Б.). 3. Не было ніякага адпачынку, таму вельмі хацелася спаць, хоць трошку звесці вочы (Г.Д.). 4. Беларускі народ… не скарыўся ворагу, не стаў перад ім на калені (М.Л.). 5. Пакліч да мяне камандзіра, ды жыва, на адной назе каб… (М.Л.) 6. Адставіць балбатню! Адразу бяры і тое, і другое, – паказаў вачмі на шынку і мёд, – і каб духу твайго тут не было (М.Л.). 7. Май ты бога ў сэрцы… Ці так жа добрыя людзі справы робяць, каб без нажа чалавека рэзаць? (М.Л.) 8. – Ды ціха ты, воўчае мяса! – вылаяўся ён, не выпускаючы аброці з рук (М.Л.). 9. Цяпер ён быў у гітлераўцаў правай рукой (М.Л.). 10. Хлопцы там во! Ім, брат, пальца ў рот не кладзі. Баявыя, нічога пра іх не скажаш (М.Л.). 11. Трэба, аднак, узяць у рукі гэтых газетных пісак, якія так недарэчы выступаюць са сваёй пісанінай (М.Л.). 12. Калі хлопцы ехалі з горада, Сяргей даў ім некалькі кніжак. Усе яны перачытаны ўжо ўздоўж і ўпоперак (Я.Б.). 13. Які ж бы толк быў і парадак, каб ён служыў апусціўшы рукі? (Я. Колас) 14. Было чаго хваляваца Клімёнку: ён фактычна вёў першую скрыпку (У.Д.). 15. Ад гэтага

рэагавання... нікому ні горача ні холадна (І.М.). 16. Вярнуўшыся дамоў, я некалькі дзён хадзіў як апушчаны ў ваду (У.Р.).

Заданне 6. *Карыстаючыся «Слоўнікам фразеалагізмаў» І.Я. Лепешава, растлумачце значэнне наступных выразаў. Падбярыце да іх сінанімічныя словы.*

Адным махам, акунёў вудзіць, вешаць галаву, натапырыць вушы, задзіраць нос, на скорую руку, непачаты край, падпілаваць рогі, у момант вока, хоць гаць гаці, як гром з яснага неба.

Заданне 7. *Растлумачце значэнні фразеалагізмаў. З мнагазначнымі фразеалагізмамі складзіце сказы.*

Абіваць парогі, адбою няма, таўчы ваду ў ступе, гуляць з агнём, даць жау, даць слова, з агню ды ў полымя, камар носа не падточыць, мець на ўвазе.

Заданне 8. *Замяніце выдзеленыя словы або словазлучэнні фразеалагізмамі. Адзначце, якія новыя семантычныя ці стылістычныя адценні ўносяць фразеалагізмы ў сказы.*

1. Агеньчыкі ў лесе з усіх бакоў паблісківаюць, мігцяць. Як падхопіцца той пастух, ды *ўцякаць*. 2. Раніцай прынеслі Лідзе запіску. Запіска пераходзіла *ад аднаго да другога*. 3. Ды цябе-то я *вельмі добра* ведаю. 4. Прысела ля стала спіною да акна, каб не так *быў прыкметны* яе хатні выгляд. 5. Была далёка, за дрымучымі лясамі, адкуль *зусім блізка* да Ледавітага акіяна. 6. Дзядзька Міхей хітры, але ж і мы *не горшыя за іншых*. 7. Аграному хацелася зрабіць штосьці прыемнае карэспандэнту сталічнай газеты, бо з раённай да іх прыязджаюць часта, а са сталіцы *вельмі рэдка*.

Заданне 9. *Устаўце прапушчаныя кампаненты, растлумачце сэнс фразеалагізмаў.*

Біцца ... аб лёд, бачыць на тры сажні ..., крукам ... не дастаць, на вярбе ... растуць, з мухі ... зрабіць, зімою ... пашкадуе, хапаць ... з неба, малако .. не абсохла, у ... рог скруціць, зубы класці..., адчыніць ... у свет (каму, які), па слова ... не лезе, мароз ... прабягаў, іскры ... з воч, альфа і ..., хоць ваўкоў ..., як гром з ... неба, чорт нагу ..., зуб на зуб ..., хоць кол на галаве ..., як гара ... звалілася.

Заданне 10. *Адзначце сінонім (сінонімы) да кожнага фразеалагізма.*

На ўсе вочы (глядзець) – 1) уважліва; 2) доўга; 3) пільна; 4) з зайздрасцю;

Глядзець у зубы (каму) – 1) злавацца; 2) крыўдзіцца; 3) цацкацца; 4) цырымоніцца;

За дзедам шведам – 1) недалёка; 2) за мяжой; 3) даўным-даўно; 4) далёка-далёка;

У адзін голас – 1) адначасова; 2) аднадушна; 3) аднолькава; 4) гучна;

Гады ў рады – 1) рэдка; 2) штогод; 3) часта; 4) пастаянна;

За прыгожыя вочы – 1) відавочна; 2) неспадзявана; 3) бескарыслівa; 4) дарэмна;

Пакласці на алтар – 1) пазычыць; 2) ахвяраваць; 3) згубіць; 4) адрачыся.

Заданне 11. *Выпішыце са сказаў фразеалагізмы, растлумачце іх паходжанне. Карыстайцеся «Этымалагічным слоўнікам фразеалагізмаў» І.Я. Лепешава (Мінск, 2004).*

1. Міколка пацягнуўся ўвесь, сцяўся ў пругкі камяк і ў імгненне вока апынуўся ля самых акон машыны (М.Л.). 2. Есці хлеб у поце твару мы не лічым больш за кару (К.К.). 3. Потым стары ўспамінае пра сваё ранішняе здарэнне. Спазніўся вось толькі дарма, выбраўся з дому ў свіныя галасы (В.Б.). 4. Чалавек напрамілы бог прасіў за ўзнагароду знайсці партфель, які ён згубіў (Капыл.). 5. Шыковіч глядзеў на яго цяпер так, быццам не пазнаваў старога

сябра, з якім з’еў не адзін пуд солі (І.М.). 6. Абрыцкі прэ ва ўсе лапаткі, бяжыць, як можа, без аглядкі... (Я. Колас) 7. То не дуб у бары заскрыпеў, застагнаў – гэта я без пары богу душу аддаў (Куп.). 8. На жыццёвым шляху кожнага чалавека трапляюцца свае гордзіевы вузлы (Карп.).

Заданне 12. *Выпісаць з «Этымалагічнага слоўніка фразеалагізмаў» І.Я. Лепешава (Мінск, 2004) па 3 выразы, якія ўзніклі: 1) у выніку пераасэнсавання свабодных словазлучэнняў; 2) з прыказак у выніку іх скарачэння; 3) у выніку зліцця адных выразаў у адзін; 4) па мадэлі іншых фразеалагізмаў.*

Заданне 13. *Зрабіце фразеалагічны разбор падкрэсленых фразеалагізмаў.*
1. Да дому роднага цяпер адсюль <u>рукой падаць</u>. 2. Двор заўсёды падмецены <u>хоць бокам каціся</u>. 3. Відаць усё <u>як на далоні</u>.

**Пытанні і заданні да самакантролю**

1. Што называецца фразеалогіяй?
2. Што з’яўляецца прадметам фразеалогіі?
3. Якія задачы вывучэння фразеалогіі?
4. Што адносяць да аб’екта фразеалогіі ў шырокім і вузкім яе разуменні?
5. Што такое фразеалагізм? Якія вызначальныя прыметы мае фразеалагізм?
6. Як вызначаецца семантыка фразеалагізма?
7. У чым падабенства і адрозненне паміж словам і фразеалагізмам, свабодным словазлучэннем і фразеалагізмам, сказам і фразеалагізмам?
8. Наколькі пашыраны выпадкі полісеміі і аманіміі ў фразеалагічнай сістэме ў параўнанні з лексічнай?
9. Што называецца варыянтнасцю фразеалагізмаў? Якія існуюць тыпы фразеалагічнай варыянтнаці?
10. Наколькі пашыраны з’явы сінаніміі ў фразеалогіі?
11. Якія існуюць тыпы фразеалагізмаў паводле ступені семантычнай спаянасці іх кампанентаў?
12. Якія ўстойлівыя спалучэнні адносяцца да фразеалагічных адзінстваў і фразеалагічных зрашчэнняў?
13. На якія тыпы падзяляюцца фразеалагізмы паводле іх структурна-граматычнага складу?
14. Што ўваходзіць у паняцце сэнсавай структуры фразеалагізма? Што ўключаецца ў фразеалагічнае значэнне, стылістычнае значэнне фразеала-гізма?
15. Якія існуюць тыпы фразеалагізмаў паводле стылістычнай афарбоўкі і сферы выкарыстання?
16. У чым сутнасць марфалагічнай класіфікацыі фразеалагізмаў? Якія існуюць тыпы фразеалагічных адзінак па суадноснасці з часцінамі мовы? Якія фразеалагізмы з’яўляюцца несуадноснымі з пэўнымі часцінамі мовы?
17. Якімі членамі сказа могуць з’яўляцца фразеалагізмы? Як гэта вызначыць?
18. Якія генетычныя пласты вылучаюць ў фразеалагічным складзе беларускай мовы?
19. Назавіце асноўныя крыніцы ўзнікнення і паходжання фразеалагізмаў.
20. Якія існуюць стылістычныя прыёмы абыгрывання фразеалагізмаў? З якой мэтай пісьменнікі выкарыстоўваюць абноўленыя фразеалагічныя адзінкі?

21. Ці папаўняецца беларуская літаратурная мова новымі фразеалагізмамі? Якія існуюць крыніцы папаўнення беларускай фразеалогіі?

## Заданні да самастойнай працы

1. З «Фразеалагічнага слоўніка беларускай мовы» І.Я. Лепешава (Мінск, 1993) выпішыце фразеалагімы са значэннем ‘анічога’, ‘збянтэжыць, заблытаць’, ‘зірнуць, глянуць’, ‘вельмі стамляцца’, ‘вельмі рэдка’, ‘вельмі дружна, у поўнай згодзе (жыць)’.
2. З «Фразеалагічнага слоўніка беларускай мовы» І.Я. Лепешава (Мінск, 1993) выпішыце па 5 прыкладаў назоўнікавых, дзеяслоўных, прыметнікавых, прыслоўных, мадальных, выклічнікавых фразеалагізмаў і 5 фразеалагізмаў, несуадносных з часцінамі мовы.
3. З «Фразеалагічнага слоўніка беларускай мовы» І.Я. Лепешава (Мінск, 1993) выпішыце па 4 прыклады на наступныя фразеалагічныя варыянты: 1) лексічныя; 2) фанетычныя; 3) акцэнтна-фанетычныя; 4) акцэнтныя; 5) словаўтваральныя; 6) марфалагічныя; 7) канструкцыйна-колькасныя; 8) камбінаваныя.
4. Выпішыце з «Фразеалагічнага слоўніка беларускай мовы» І.Я. Лепешава (Мінск, 1993) па 3 фразеалагізмы, якія кіруюць: 1) родным; 2) давальным; 3) вінавальным; 4) месным склонам; 5) двума склонамі.
5. Выпішыце з «Фразеалагічнага слоўніка беларускай мовы» І.Я. Лепешава (Мінск, 1993) па 3 прыклады сказаў з фразеалагізмамі са структурай словазлучэння, сказа, спалучэння слоў. Вызначце сінтаксічную ролю выпісаных фразеалагічных адзінак.
6. З выбранага апавядання беларускага аўтара выпісаць усе выяўленыя фразеалагізмы і ахарактарызаваць іх па наступных параметрах: 1) значэнне фразеалагізма; 2) тып па семантычнай злітнаці кампанентаў; 3) ці з’яецца фразеалагізм варыянтам (калі з’яўляецца, вызначыць яго тып) 4) ці мае фразеалагізм сінонімы, антонімы, амонімы? 5) ці з’яўляецца фразеалагізм мнагазначным? 6) тып паводле паходжання; 7) тып з экспрэсіўна-стылістычнага боку; 8) тып па структуры; 9) тып па спалучальнасці са словамі свабоднага ўжывання; 10) тып па суадноснасці з часцінамі мовы; 11) сінтаксічная роля фразеалагізма; 12) ці выкарыстоўваецца фразеалагізм у агульнапрынятым, традыцыйным выглядзе (з замацаванай формай і значэннем) ці са змяненнямі (абыгрываецца пэўным стылістычным прыёмам). Пры выкананні карыстайцеся слоўнікамі: 1) Лепешаў, І.Я. Слоўнік фразеалагізмаў: у 2 т. / І.Я. Лепешаў. – Мінск: БелЭн, 2008. – 2 т.; 2) Лепешаў, І.Я. Фразеалагічны слоўнік беларускай мовы: у 2 т. / І.Я. Лепешаў. – Мінск: БелЭн, 1993. – 2 т. 3); 3) Лепешаў, І.Я. Этымалагічны слоўнік фразеалагізмаў / І.Я. Лепешаў. – Мінск, 2004.

## Спіс літаратуры

### Асноўная літаратура

1. Сучасная беларуская мова: Вучэбны дапаможнік для студэнтаў спецыяльнасці “Пачатковая адукацыя” / Пад агульн. рэд. Л.М.Грыгор’евай. – Мінск: Выш. шк., 2010. – 621 с.

2. Грыгор’ева Л.М. Сучасная беларуская мова. Зборнік практыкаванняў: вучэбны дапаможнік / Л.М. Грыгор’ева, Г.Ф. Андарала. – Мінск: Выш. шк., 2010. – 368 с.

3. Адамовіч, Я.М. Беларуская мова: Зборнік практыкаванняў: вучэб. дапам. / Я.М. Адамовіч, М.І. Касцян, В.У. Ляпёшкін. – 2-е выд. перапрац. – Мінск: Выш. шк., 1993. – 207 с.

4. Беларуская мова ў 2 ч.: Ч.1: падруч. Для навучэнцаў педвучылішчаў і каледжаў / Пад агул. рэд. Л.М. Грыгор’евай. – 3-е выд. перапрац. і дап. – Мінск: Выш. шк., 1998. – 330 с.

5. Беларуская мова: Фанетыка. Арфаэпія. Графіка. Арфаграфія. Лексікалогія. Лексікаграфія. Фразеалогія. Марфемная будова слова. Словаўтварэнне. Марфалогія. Сінтаксіс. Пунктуацыя: Вучэб. дапам. Для педагагічных ВНУ / Пад. агул. рэд. Л.М. Грыгор’евай. – Мінск, 1994. – 655 с.

6. Красней В. П. Сучасная беларуская мова: Лексікалогія. Фразеалогія. – Мінск: Выд-ва “Універсітэцкае”, 1984.

7. Лепешаў, І.Я. Фразеалогія сучаснай мовы: вуч. дапам. для філал. фак. ВНУ / І.Я. Лепешаў. – Мінск: Выш. шк., 1998. – 271 с.

### Дадатковая літаратура

1. Беларуская граматыка: У 2-х частках. Ч. 1. Фаналогія. Арфаграфія. Марфалогія. Словаўтварэнне. Націск. Ч. 2. Сінтаксіс / АН БССР Інстытут мовазнаўства імя Я. Коласа / Пад рэд. Бірылы Н. В., Шубы П. П. – Мінск: Навука і тэхніка, 1986.

2. Мокиенко, В.М. Славянская фразеология: учеб. пособие для филол. спец. ун-тов / В.М. Мокиенко. – М.: Высш. шк., 1980. – 207 с.

3. Жуков, В.П. Русская фразеология: учеб. пособие / В.П. Жуков, А.В. Жуков. – 2-е изд., испр. и доп. – М.: Высш. шк., 2006. – 408 с.

4. Янкоўскі, Ф.М. Беларуская мова / Ф.М. Янкоўскі. – 3-е выд., дапрац. – Мінск: Выш. шк., 1978. – 336 с.

5. Янкоўскі, Ф.М. Беларуская фразеалогія / Ф.М. Янкоўскі. – Мінск: Нар. асвета, 1981. – 79 с.

### Слоўнікі

1. Лепешаў, І.Я. Слоўнік фразеалагізмаў: у 2 т. / І.Я. Лепешаў. – Мінск: БелЭн, 2008. – 2 т.

2. Лепешаў, І.Я. Фразеалагічны слоўнік беларускай мовы: у 2 т. / І.Я. Лепешаў. – Мінск: БелЭн, 1993. – 2 т.

## ФРАЗЕАГРАФІЯ

Пасля вывучэння раздзела “Фразеаграфія” студэнт павінен

**ведаць:**
- задачы фразеаграфіі;
- сувязь фразеаграфіі з фразеалогіяй;
- тыпы фразеалагічных слоўнікаў;
- будову слоўнікавых артыкулаў у фразеалагічных слоўніках розных тыпаў

**умець:**
- карыстацца фразеалагічнымі слоўнікамі розных тыпаў;
- характарызаваць фразеалагізмы на аснове фразеалагічных слоўнікаў;
- вызначаць тыпп фразеалагічнага слоўніка.

### Асноўныя паняцці:

**Фразеаграфія** – раздзел мовазнаўства, які займаецца тэорыяй і практыкай складання, апісання і характарыстыкай фразеалагічных слоўнікаў.

**Тыпы фразеалагічных слоўнікаў** – аднамоўныя, двухмоўныя, радзей – шматмоўныя (перакладныя).

**Тыпы аднамоўных фразеалагічных слоўнікаў паводле іх прызначэння**: тлумачальныя, этымалагічныя, слоўнікі фразеалагічных сінонімаў, слоўнікі фразеалагічных антонімаў, фразеалагічныя слоўнікі мовы пісьменніка.

**Тыпы аднамоўных фразеалагічных слоўнікаў паводле крыніц матэрыялу**: фразеалагічныя слоўнікі літаратурнай мовы, фразеалагічныя слоўнікі народнай мовы, фразеалагічныя слоўнікі асобных гаворак.

### Заданні да практычных заняткаў

1. Падрыхтаваць паведамленні пра наступныя фразеалагічныя слоўнікі беларускай мовы:

– «Слоўнік беларускіх прыказак» І.І. Насовіча (1870);

– «Люд беларускі на Русі Літоўскай» М. Федароўскага (1877–1905);

– «Беларуская фразеалогія: фразеалагізмы, іх значэнне, ужыванне» Ф. Янкоўскага (1968);

– «Слоўнік беларускай народнай фразеалогіі» Е.С. Мяцельскай, Я.М. Камароўскага (1972);

– «І коціцца і валіцца» (1972), «І сячэ і паліць» (1974), «Слова за слова» (1977) Г.Ф. Юрчанкі;

– «З народнай фразеалогіі. Дыферэнцыяльны слоўнік» І.Я. Лепешава (1991);

– «Слоўнік дыялектнай фразеалогіі Гродзеншчыны» М.А. Даніловіча (2000);

– «Фразеалагічны слоўнік для сярэдняй школы» Н.В. Гаўрош, І.Я. Лепешава, Ф.М. Янкоўскага (1973);

– «Фразеалагічны слоўнік беларускай мовы ў двух тамах» І.Я. Лепешава (1993);

– «Этымалагічны слоўнік фразеалагізмаў» і.Я. Лепешава (2004);

– «Слоўнік фразеалагізмаў: у 2 т.» І.Я. Лепешава (2008).

– «Фразеалагічны слоўнік мовы твораў Якуба Коласа» (1993);

– «Слоўнік фразеалагізмаў мовы твораў Янкі Купалы» В.А. Ляшчынскай (2007);

– «Англа-беларускі слоўнік фразеалагізмаў параўнальнага тыпу» Л.Д. Корсак, Л.С. Марціновіч (1984);

– «Малы руска-беларускі слоўнік прыказак, прымавак і фразем» З. Санько (1991);

– «Руска-беларускі фразеалагічны слоўнік для сярэдняй школы» І.А. Кісялёва (1991).

Пры паведамленні неабходна ўлічыць наступнае:

1) Вызначыць тып фразеалагічнага слоўніка;
2) Колькасць слоўнікавых артыкулаў, асаблівасці іх размяшчэння ў слоўніку;
3) Будова слоўнікавага артыкула;
4) Прывесці прыклад слоўнікавага артыкула;
5) У чым роля слоўніка, якія яго недахопы з пункту погляду сучаснай фразеаграфіі?

**Пытанні ді заданні да самаправеркі:**

1. Што разумеецца пад фразеаграфіяй?
2. Якія задачы фразеаграфіі?
3. У чым праяўляецца сувязь фразеаграфіі з фразеалогіяй?
4. Хто былі першымі збіральнікамі фразеалагізмаў? Назавіце іх.
5. Назавіце тыпы аднамоўных фразеалагічных слоўнікаў. Прывядзіце прыклады такіх слоўнікаў.
6. У якіх слоўніках (акрамя фразеалагічных) і як падаюцца фразеалагізмы?
7. У якіх слоўніках упершыню падаюцца фразеалагізмы? Назавіце і ахарактарызуйце гэтыя працы.
8. Які фразеалагічны слоўнік на сённяшні дзень і чаму лічыцца нарматыўным фразеалагічным слоўнікам беларускай літаратурнай мовы?
9. Як падаецца адзін і той жа фразеалагізм у фразеалагічных слоўніках розных тыпаў?
10. Якога тыпу паметы выкарыстоўваюцца ў фразеалагічных слоўніках? Што яны абазначаюць?
11. Раскажыце пра будову слоўнікавага артыкула ў «Фразеалагічным слоўніку беларускай мовы ў двух тамах» І.Я. Лепешава.
12. Назавіце і ахарактарызуйце дыялектныя фразеалагічныя слоўнікі.
13. Чым адрозніваецца праца І.Я. Лепешава «З народнай фразеалогіі. Дыферэнцыяльны слоўнік» ад астатніх слоўнікаў народна-дыялектнай мовы?
14. Назавіце і ахарактарызуйце перакладныя фразеалагічныя слоўнікі.

**Спіс літаратуры**

**Асноўная літаратура**

1. Сучасная беларуская мова: Вучэбны дапаможнік для студэнтаў спецыяльнасці "Пачатковая адукацыя" / Пад агульн. рэд. Л.М. Грыгор'евай. – Мінск: Выш. шк., 2010. – 621 с.

2. Грыгор'ева Л.М. Сучасная беларуская мова. Зборнік практыкаванняў: вучэбны дапаможнік / Л.М. Грыгор'ева, Г.Ф. Андарала. – Мінск: Выш. шк., 2010. – 368 с.

3. Адамовіч, Я.М. Беларуская мова: Зборнік практыкаванняў: вучэб. дапам. / Я.М. Адамовіч, М.І. Касцян, В.У. Ляпёшкін. – 2-е выд. перапрац. – Мінск: Выш. шк., 1993. – 207 с.

4. Беларуская мова ў 2 ч.: Ч.1: падруч. Для навучэнцаў педвучылішчаў і каледжаў / Пад агул. рэд. Л.М. Грыгор'евай. – 3-е выд. перапрац. і дап. – Мінск: Выш. шк., 1998. – 330 с.

5. Беларуская мова: Фанетыка. Арфаэпія. Графіка. Арфаграфія. Лексікалогія. Лексікаграфія. Фразеалогія. Марфемная будова слова. Словаўтварэнне. Марфалогія. Сінтаксіс. Пунктуацыя: Вучэб. дапам. Для педагагічных ВНУ / Пад. агул. рэд. Л.М. Грыгор'евай. – Мінск, 1994. – 655 с.

6. Лепешаў, І.Я. Фразеалогія сучаснай мовы: вуч. дапам. для філал. фак. ВНУ / І.Я. Лепешаў. – Мінск: Выш. шк., 1998. – 271 с.

### Дадатковая

1. Бурак, Л.І. Сучасная беларуская мова / Л.І. Бурак. – Мінск, 1985, с. 50–55.

2. Красней, В.П., Лазоўскі, У.М., Шчарбакова, І.М. Сучасная беларуская мова: Лексікалогія. Фразеалогія / В.П. Красней, У.М. Лазоўскі, І.М. Шчарбакова. – Мінск, 1984. – С. 166–172.

3. Янкоўскі, Ф.М. Беларуская фразеалогія / Ф.М. Янкоўскі. – Мінск: Нар. асвета, 1981. – 79 с.

### Слоўнікі

1. Даніловіч, М.А. Слоўнік дыялектнай фразеалогіі Гродзеншчыны / М.А. Даніловіч. – Гродна: Гродз. дзярж. ун-т, 2000. – 267 с.

2. Киселев, И.А. Русско-белорусский фразеологический словарь для средней школы / И.А. Киселев. – Минск: Нар. асвета, 1991. – 192 с.

3. Лепешаў, І. Я. З народнай фразелогіі: дыферэнцыяльны слоўнік / І.Я. Лепешаў. – Мінск: Выш. шк., 1991. – 110 с.

4. Лепешаў, І.Я. Слоўнік фразеалагізмаў: у 2 т. / І.Я. Лепешаў. – Мінск: БелЭн, 2008. – 2 т.

5. Лепешаў, І.Я. Фразеалагічны слоўнік беларускай мовы: у 2 т. / І.Я. Лепешаў. – Мінск: БелЭн, 1993. – 2 т.

6. Ляшчынская, В.А. Слоўнік фразеалагізмаў мовы твораў Янкі Купалы / В.А. Ляшчынская, З.У. Шведава. – Гомель: Гомел. дзярж. ун-т, 2007. – 312 с.

7. Мяцельская, Е.С. Слоўнік народнай фразеалогіі / Е.С. Мяцельская, Я.М. Камароўскі; рэд.: А.М. Ляпіч. – Мінск: Выд-ва Беларус. дзярж. ун-та, 1972. – 322 с.

8. Санько, З. Малы руска-беларускі слоўнік прыказак, прымавак і фразем / З. Санько. – Мінск: Навука і тэхніка, 1991. – 218 с.

9. Юрчанка, Г.Ф. І коціцца і валіцца (устойлівыя словазлучэнні ў гаворцы Мсціслаўшчыны); рэд.: А.А. Крывіцкі / Г.Ф. Юрчанка. – Мінск: Навука і тэхніка, 1972. – 287 с.

10. Юрчанка, Г.Ф. І сячэ і паліць (устойлівыя словазлучэнні ў гаворцы Мсціслаўшчыны); рэд.: А.А. Крывіцкі / Г.Ф. Юрчанка. – Мінск: Навука і тэхніка, 1974. – 296 с.
11. Юрчанка, Г.Ф. Слова за слова (устойлівыя словазлучэнні ў гаворцы Мсціслаўшчыны); рэд.: А.А. Крывіцкі / Г.Ф. Юрчанка. – Мінск: Навука і тэхніка, 1977. – 272 с.

**Кантрольны тэст па раздзелах "Арфаэпія", "Арфаграфія" "Графіка", "Арфаграфія", "Лексікалогія", "Фразеалогія"**

1. *Адзначце словы з націскам на першым складзе*:
1) спіна;
2) выпадак;
3) імя;
4) камень;
5) стары.

2. *Адзначце рады, у якіх ва ўсіх словах націск падае на другі склад*:
1) гліняны, гусценькі, каменны, касцяны;
2) каўчук, камбайнер, мысленне, таварышы;
3) заняць, заінець, клясціся, міргаць;
4) давідна, загаддзя, начыста, накрыж;
5) адзінаццаць, шэсцьдзесят, пяцьсот, мільён.

3. *Адзначце словы з націскам на трэцім складзе*:
1) грамадзянін;
2) кулінарыя;
3) індустрыя;
4) магазін;
5) крапіва.

4. *Адзначце словы, у якіх два націскі – асноўны і пабочны.*
1) дабрабыт;
2) заапарк;
3) газаправод;
4) паралелаграм;
5) стотысячны.

5. *Адзначце словы, вымаўленне якіх не супадае з напісаннем*:
1) летні;
2) скіслы;
3) адбегчы;
4) змагаешся;
5) адсвечваць.

6. *Адзначце словы і спалучэнні, у якіх літара з абазначае гук [ж]*:
1) з Сашам;
2) прыезжы;
3) з Арцёмам;
4) з джалам;
5) зжаць.

7. *Адзначце, які гук ([і] або[ы] ці [й]) трэба вымаўляць у прыведзеных словах і словазлучэннях*:
1) вы…сці;
2) з …голачкі;
3) пед…нстытут;
4) раз…сціся;
5) дождж … вецер.

8. *Адзначце словы, у якіх колькасць гукаў і літар супадае*:
1) Айчына;
2) заязджаюць;
3) насенне;
4) світаць;
5) спартсмен.

9. *Адзначце словы, у якіх гукаў больш, чым літар*:
1) егіпецкі;
2) авіяцыя;
3) ёсць;
4) п'еса;
5) ячмень.

10. *Адзначце словы, у якіх на месцы пропуску трэба пісаць літару* ***э***:
1) цыр…маніял;
2) літ…ральны;

3) ц…лафан;
4) падазр…ваць;
5) ш…сцяткацкі;
6) шын…ль.

11. *Адзначце словы, у якіх на месцы пропуску трэба пісаць літару* ***я***:
1) …таган;
2) Токі…;
3) дз…сяты;
4) ма…нэз;
5) вас…мнаццаць;
6) в…лікадушны.

12. *Адзначце словы, у якіх на месцы пропуску трэба пісаць літару* ***а***:
1) орд…р;
2) орд…н;
3) м…тацыкл;
Г) ф…тарэпарцёр;
4) ж…мчужына;
5) выс…каідэйны.

13. *Адзначце словы, у якіх на месцы пропуску трэба пісаць літару* ***е***:
1) св…тапогляд;
2) зерн…ўборачны;
3) м…даварэнне;
4) к…раміка;
5) дз…вятнаццаты;
6) рэзюм… .

14. *У якіх словах патрэбна пісаць спалучэнне* ***іё (ыё)***:
1) пер…дычны;
2) аўд…нцыя;
3) акс…ма;
4) …нізацыя;
5) энтуз…зм;
6) Гес…д.

15. *У якіх словах на месцы пропуску патрэбна пісаць* ***у нескладовае***:
1) парадак …ваходу;
2) спыніліся, …ладкаваліся на начлег;
3) крыкі «…ра»;
4) ток-шо…;
5) са…на;
6) тра…р;
7) ка…чук.

16. *Адзначце правільна напісаныя словы*:
1) заіскрыцца;
2) абыйсці;
3) займальны;
4) дызайн;
5) праіранскі;
6) паіменна.

17. *Адзначце словы, у якіх на месцы пропуску трэба пісаць* ***мяккі знак***:
1) дз…мухавец;
2) з…вінець;
3) пяц…сот;
4) ліпен…скі;
5) салаў…і;
6) верф…;
7) кон…скі;
8) проц…ма.

18. *Якія словы трэба пісаць з вялікай літары*:
1) К(к)упалаўская прэмія;
2) Г(г)арлахвацкія;
3) Л(л)ясун;
4) дай Б(б)ожа;
5) К(к)нязь-возера;
6) І(і)мператар) Я(я)поніі.

19. *Адзначце словы, якія трэба пісаць разам*:
1) (гарна)лыжны;
2) (блок)пост;
3) (як)раз;
4) (чалавека)дзень;
5) (рэзка)адмоўны;
6) (да)зарэзу;
7) (на)верх;
8) (інда)еўрапейскі.

20. *Падкрэсліце адназначныя літары ў словах*:
1) край;
2) шчасце;
3) пісьмо;
4) яблык;
5) гадзіннік.

21. *Размясціце ў алфавітным парадку словы (парадак абазначце нумарацыяй)*:
1) крадзёж;
2) лебедзь;
3) сшытак;
6) дзюна;
7) экзамен;
8) бразгаць;

4) адзежына; 9) дакумент;
5) задзіра; 10) графіка.

22. *Прывядзіце прыклады 5-6 слоў, у якіх:*

А) адна літара абазначае розныя гукі;

Б) адна літара адначасовы абазначае два гукі.

23. *Падкрэсліце літары, напісанне якіх заснавана на складовым прынцыпе графікі:*

1) студэнт;
2) вецер;
3) лісце;
4) рамонт;
5) залік.

24. *Пералічыце літары, напісанне якіх заснавана на гукавым прынцыпе графікі.*

25. *Выканаць графічны аналіз слова* ***ехаў****.*

26. *Адзначце сінанімічныя рады:*

5) чужынец, прышэлец, чужаземец;
6) стакан, кубар, фужэр;
7) змыцца, змыліцца, уцячы;
8) разнастайны, неаднастайны, неаднолькавы;
9) рука, ручны, ручнік.

27. *Адзначце словы-амонімы:*

1) **талер** – старажытная нямецкая манета і **талер** – металічная пліта ў друкарскай машыне;
2) **народ** – насельніцтва пэўнай дзяржавы і **народ** – вялікая група людзей;
3) **толк** – сэнс, значэнне, сутнасць і **толк** – карысць, добры вынік;
4) **інтуіцыя** – пачуццё, тонкае разуменне і **інтуіцыя** – пасрэднае пазнанне ісціны без дапамогі вопыту і лагічных вывадаў;
5) **бульба** – назва беларускага народнага танца і **бульба** – аднагадовая агародная расліна.

28. *Адзначце пары слоў-антонімаў:*

1) правы – нявінны;
2) радасны – тужлівы;
3) круты – пакаты;
4) цьмяны – выразны;
5) дадатны – пазітыўны.

29. *Адзначце рады, у якіх запісаны варыянты аднаго і таго ж слова:*

1) гераізм – геройства;
2) пераўтварэнне – рэформа;
3) рэстаўрацыя – узнаўленне;
4) крама – магазін;
5) ахова – каравул.

30. *Адзначце нумары выразаў, якія могуць ужывацца і як свабодныя словазлучэнні, і як фразеалагізмы:*

1) паказаць зубы;
2) у сабакі вачэй пазычаць;
3) ставіць кропку;
4) хата з краю;
5) губляць галаву;
6) насіць на руках.

31. *Адзначце сінонімы да наступных фразеалагізмаў:*

***На ўсе вочы*** *(глядзець)****:***

1) уважліва;
2) доўга;
3) пільна;

4) з зайздрасцю.

***Глядзець у зубы*** *(каму)*:

1) злавацца;
2) крыўдзіцца;
3) цацкацца;
4) цырымоніцца.

**Віляць хвастом:**

1) хітраваць;
2) крывадушнічаць;
3) баяцца;
4) спужацца;

***Як па камандзе***:

1) дружна;
2) хутка;
3) раптам;
4) разам.

# Схемы і ўзоры аналізу

## Графічны аналіз

1) вызначыць, колькі гукаў і літар у слове;
2) назваць літары і абазначаныя імі гукі;
3) ахарактарызаваць кожную літару: па назве (простая ці састаўнаяя, для галосных яшчэ – ётаваная ці неётаваная), па функцыі (адназначная ці двухзначная, а для ётаваных яшчэ – ётавая ці палатальная);
4) вызначыць гукавы і складовы прынцыпы ўжывання літар.

Узор: здароўе – 7 літар, 8 гукаў

зэ – [з] – простая, двухзначная;
дэ – [д] – простая, адназначная;
а – [а] – простая, неётаваная, адназначная;
эр – [р] – простая, адназначная;
о – [о] – простая, неётаваная, адназначная;
ў (нескладовае) – [ў] – састаўная адназначная;
е – [j] – простая, ётавая, двухзначная, ётавая;
- [э]

7 л. 8 г.

Ужыванне літар *зэ*, *е* заснавана на складовым прынцыпе графікі, а ўжыванне літар *дэ*, *а*, *эр*, *о*, *ў* – на гукавым.

## Арфаграфічны аналіз

1) падкрэсліць арфаграмы;
2) вызначыць від арфаграмы;
3) назваць правіла напісання арфаграмы;
4) вызначыць прынцып перадачы гукавога складу.

УЗОР: *Адгрымела ноччу навальніца*, птушак пазванчэлі галасы (П.Панчанка).

Адгрымела – правапіс прыставак. Правіла: прыстаўка *ад* пішацца нязменна і перад звонкімі зычнымі і перад глухімі. Марфалагічны прынцып.

Ноччу – правапіс падоўжаных зычных. Правіла: гук [ч] стаіць паміж галоснымі, вымаўляецца падоўжана і падаўжэнне перадаецца на пісьме падваеннем адпаведных літар. Фанетычны прынцып.

Навальніца – правапіс змякчальнага мяккага знака. Правіла: пасля мяккага [л] перад любым зычным (цвёрдым або мяккім, за выключэннем [л]) заўсёды пішацца мяккі знак. Фанетычны прынцып.

## Лексічны аналіз

1) лексічнае значэнне слова ў кантэксце; 2) тып значэння: па матываванасці, сувязі і назвы з прадметам, спалучальнасці з іншымі словамі; 3) адназначнае ці мнагазначнае; 4) аманімічныя адносіны; 5) сінанімічныя адносіны; 6) антанімічныя адносіны; 7) тып паводле паходжання; 8) тып па сферы ўжывання; 9) тып па экспрэсіўна-стылістычных асаблівасцях; 10) паводле актыўнага і пасіўнага саставу.

УЗОР: Высока ў сінім небе *плыве* яркае сонца, шчодра лье на зямлю сваю цеплыню і святло (І. Навуменка).

Плыве – 'плаўна перамяшчаецца ў паветры', матываванае, пераноснае, свабоднае, мнагазначнае ('перамяшчацца па паверхні вады або ў вадзе', ' едзе на караблі, лодцы' і падобн., ' праходзіць, мінуе' і інш.), амоніма няма, антонім – *стаіць*, спрадвечна беларускае, агульнаўжывальнае, належыць да актыўнай лексікі, стылістычна нейтральнае.

**Фразеалагічны аналіз**

1) сэнс фразеалагізма; 2) тып па семантычнай злітнасці кампенентаў; 3) тып паводле паходжання; 4) тып з экспрэсіўна-стылістычнага боку; 5) тып па структуры; 6) тып па спалучальнасці са словам; 7) тып па суадноснасці з часцінамі мовы; 8) сінтаксічная роля ў даным кантэксце.

УЗОР: Ну, Мікола, лічы, прапаў ты цяпер *як швед пад Палтавай.* (А.М.)

*Як швед пад Палтавай* – 'зусім, канчаткова', адзінства, агульнаславянскі, размоўны, словазлучэнне, з валентна абмежаваным значэннем (прапасці, праваліцца), прыслоўны, акалічнасць.

**Праграма экзамена**
**па беларускай мове**
**(“Арфаэпія”. “Графіка”. “Арфаграфія”.**
**“Лексікалогія”. “Лексікаграфія”.**
**“Фразеалогія”. “Фразеаграфія”)**

Месца курса сучаснай беларускай літаратурнай мовы сярод іншых лінгвістычных дысцыплін. прадмет і задачы курса. Норма, кадыфікацыя нормы.
Паняцці “беларуская літаратурная мова”, “нацыянальная мова”, “дыялектная мова”.
Вусная і пісьмовая формы беларускай літаратурнай мовы. Гістарычныя этапы развіцця беларускай мовы.
Беларуская мова сярод іншых моў свету.
Арфаэпія, яе прадмет і задачы. Арфаэпічныя нормы і прычыны адхілення ад іх.
Арфаэпія галосных.
Арфаэпія зычных і спалучэння зычных.
Змест і задачы графікі. Алфавіт.
Літары. Гукавое значэнне літар. Іншыя сродкі графікі.
Функцыі літар е, ё, ю, я, і.
Прынцыпы беларускай графікі.
З гісторыі беларускай графікі.
Арфаграфія як раздзел мовазнаўства.
Прадмет і задачы арфаграфіі. Прынцыпы арфаграфіі. Станаўленне і развіццё беларускай арфаграфіі.
Правапіс галосных о, э, а, е, ё, я.
Правапіс галосных у складаных словах.
Правапіс спалучэнняў галосных у запазычаных словах.
Правапіс прыстаўных і ўстаўных зычных.
Правапіс прыстаўных галосных гукаў.
Правапіс спалучэнняў зычных.
Правапіс ў нескладовага і у складовага.
Правапіс мяккага знака і апострафа.
Правапіс падоўжаных зычных.
Правапіс вялікай літары.
Правапіс складаных назоўнікаў. Правапіс складаных прыметнікаў.
Правапіс прыслояўя.
Правапіс часціц не (ні) з рознымі часцінамі мовы.
Правілы пераносу слоў.
Паняцце пра лексіку. Лексікалогія як раздзел мовазнаўства. Сувязь лексікалогіі з іншымі раздзеламі.
Слова як лексічная адзінка мовы. Лексічнае і граматычнае значэнне слова. Слова і паняцце.
Мнагазначнасць слова. прамое і пераноснае значэнне слова.
Асноўныя тыпы лексічных значэнняў.
Спосабы ўзнікнення пераносных значэнняў. Метафара, метанімія, сінекдаха.
Амонімы. Тыпы амонімаў. Паронімы.

Шляхі ўзнікнення амонімаў. Выкарыстанне амонімаў у мове. Адрозненне аманіміі ад мнагазначнасці.
Сінонімы. Разрады сінонімаў. Сінанімічны рад. Шляхі ўзнікнення сінонімаў. Роля сінонімаў у мове.
Антонімы. Тыпы антонімаў. Стылістычнае выкарыстанне антонімаў.
Лексіка сучаснай белдарускай мовы паводле яе паходжання (схема падзелу).
Спрадвечнабеларуская лексіка, яе гістарычныя пласты.
Беларуская лексіка, запазычаная са славянскіх моў. Прыметы паланізмаў.
Беларуская лексіка, запазычаная з неславянскіх моў. Прыметы запазычанняў. Словы-калькі.
Лексіка беларускай нацыянальнай мовы паводле сферы ўжывання (схема падзелу, агульная характарыстыка).
Дыялектызмы і іх разнавіднасці. Стылістычнае выкарыстанне дыялектнай лексікі.
Падзел лексікі з экспрэсіўна-стылістычнага боку (стылістычныя разрады і іх характарыстыка).
Актыўная і пасіўная лексіка. устарэлыя словы, ужыванне іх у мове.
Неалагізмы, умовы ўзнікнення іх. Наватворы, ці аказіяналізмы.
Прадмет лексікаграфіі. Тыпы слоўнікаў.
Перакладныя, тлумачальныя, дыялектныя слоўнікі.
Арфаграфічныя слоўнікі, слоўнікі сінонімаў, марфемныя слоўнікі і інш. Будова слоўнікавага артыкула розных слоўнікаў.
Фразеалогія як раздзел мовазнаўства, яе прадмет і задачы.
Фразеалагізм як адзінка мовы, яго прыметы.
Сінанімія, ананімія, антанімія і варыянтнасць фразеалагізмаў.
Тыпы фразеалагізмаў паводле ступені семантычнай спаянасці іх кампанентаў, структурна-граматычнага складу, па суадноснасці з часцінамі мовы, стылістычнай афарбоўкі і сферы выкарыстання.
Семантычная, марфалагічная, сінтаксічная, стылістычная і этымалагічная класіфікацыя фразеалагізмаў.
Фразеаграфія як раздзел мовазнаўства.
Прадмет і задачы фразеаграфіі. Сувязь фразеаграфіі і фразеалогіі.
Тыпы фразеалагічных слоўнікаў. Будова слоўнікавага артыкула ў «Фразеалагічным слоўніку беларускай мовы» І.Я. Лепешава.